● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

30 студзеня 1996 г. аўторак, №№ 27-28 (22830—22831)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ АВАРЫЯ ДОРАГА АБЫХОДЗІЦЦА КРАІНЕ

**Чвэрць свайго гадавога бюджэту Беларусь траціць на пераадоленне вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Для краіны, якая занята эканамічнымі пераўтварэннямі, гэта вельмі дорага, лічыць кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

«Мы ўдзячныя краінам, якія дапамагаюць нам спраўляцца з гэтай бядой. І асабліва Германіі — яна ўнесла найбольшы ўклад у такую гуманную справу, — сказаў Прэзідэнт на сустрэчы з прадпрымальнікамі, банкірамі і прадстаўнікамі дзяржаўных структур ФРГ. — Аднак штогадовыя затраты, звязаныя з аздараўленнем прыроды і людзей, якія пацярпелі ад радыяцыі, нязмерна большыя». Ён напомніў, што 70 працэнтаў тэрыторыі Беларусі ў выніку чарнобыльскай катастрофы ў той ці іншай ступені пацярпелі ад радыяцыйнага ўдару. І цяпер, амаль праз дзесяць гадоў, Беларусь па-ранейшаму мае патрэбу ў сучасных тэхналогіях мінімізацыі экалагічных, сацыяльных і эканамічных вынікаў самай буйной аварыі века і іх фінансавым забеспячэнні.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

### ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭЎСЯ З ТАЦЦЯНАЙ ІВАНАЎНАЙ ПРЫТЫЦКАЙ

**Праведзеная 29 студзеня сустрэча Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з доктарам гістарычных навук прафесарам Таццянай Іванаўнай Прытыцкай датычыла не толькі праблем, звязаных з увекавечаннем памяці яе мужа — вядомага дзяржаўнага дзеяча Беларусі Сяргея Восіпавіча Прытыцкага.**

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы абмеркаваў з Таццянай Іванаўнай канцэптуальныя праблемы развіцця нацыянальнай навукі і культуры.

На сустрэчы ішла размова аб аднаўленні ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры і ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі экспазіцый аб жыцці і дзейнасці С.В.Прытыцкага. Разглядалася таксама пытанне аб магчымасці стварэння мемарыяльнага пакоя-музея С.В.Прытыцкага ў Мінску, у доме, дзе ён жыў.

**БЕЛТА.**

### ФІНАНСАВУЮ ДАПАМОГУ З ПРЭЗІДЭНЦКАГА РЭЗЕРВОВАГА ФОНДУ АТРЫМАЛА АБ'ЯДНАННЕ «ГАРЫЗОНТ»

**Першыя 3 мільярды з 25 мільярдаў рублёў, што выдзелены Прэзідэнцкім рэзервовым фондам, атрымала вытворчае аб'яднанне «Гарызонт».**

Паводле звестак БелаПАН, сродкі паступілі на асобы, кантралюемы рахунак і будуць расходавацца толькі на аплату паставак камплектуючых і матэрыялаў. Дарэчы, яны забяспечаць выпуск толькі 1,5 тысячы тэлевізараў. Нармальны ж рэжым работы прадпрыемства дапускае выпуск 30 тысяч у месяц.

На думку спецыялістаў, выдзеленыя дзяржавай грошы на папаўненне абаротных сродкаў прадпрыемства дапамогуць на нейкі час загрузіць частку магутнасцей «Гарызонта». Але яны не вырашаць ключавых праблем, паколькі нармальнае ўзнаўленне капіталу абцяжарваюць перш за ўсё эканамічныя ўмовы, што існуюць у рэспубліцы.

Мяркуецца, што ў бліжэйшы час аналагічная дапамога — з рэзервовага фонду кіраўніка краіны — будзе таксама аказана яшчэ аднаму, некалі наймагутнейшаму прадпрыемству Беларусі, — ВА «Інтэграл».

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

### АПОШНЯЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ СПАДАРАМ АВАНТУРЫСТАМ

**Ужо колькі было сказана аб «мінёрах-жартаўніках», а ім самім, відаць, незразумела, што яны не могуць пазбегнуць адказнасці. Менавіта так і адбылося ў Мінску ў мінулую пятніцу, калі міліцыя пры садзейнічанні адміністрацыі Цэнтра культуры і спорту Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі затрымала такога «пірамана» ў чорным паліто і капелюшы, 30-гадовага дырэктара сталічнага ТАА.**

Свой нумар ён «выкінуў» за два дні да таго, 24 студзеня, вусна паведаміўшы аднаму з работнікаў вышэйназванага цэнтра аб рыхтуемым выбуху, пасля чаго знік. На працягу 20 хвілін была праведзена эвакуацыя шматлікай публікі, якая знаходзілася ў памяшканні. Затым падаспелі міліцыянеры і сапёры з Уручча. Праўда, паўгадзінны агляд месца здарэння нічога не даў: міны не было. Затое сведкі прадаставілі даволі дакладныя прыметы зламысніка. Па факту ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства, так што калі віну дакажуць, няўдаламу авантурысту ўласнаручна давядзецца выплачваць нанесеныя ім страты, бавячы час у зняволенні. Цэнтр за пяць гадзін прастою, паводле папярэдніх даных, страціў 4 млн. 715 тысяч рублёў (былі сарваны заняткі ў басейне, у вялікай і малой спартыўных залах, сеансы ў лазні, праграма каманды КВЗ, танцавальны вечар). Выезд сапёрнай групы ацэньваецца ў 5—10 млн. рублёў. Акрамя таго, хацелася б папярэдзіць патэнцыяльных псеўдамінёраў, што ў органаў МУС паявілася тэхнічная магчымасць апаратыўна вызначаць нумары іх тэлефонаў, таму лепш патраціць свай азарт на больш разумныя мэты.

**Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**



## Фотаслова

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Жыў-быў чалавек,*
*Яго звалі НІЯК,*
*Прапісаны быў у НІДЗЕ.*
*На мове нязграбнай*
*Пісаў той дзівак*
*Санет аб сваёй бядзе.*
*Ці трэба натоўпу*
*Нязграбны санет?*
*Натоўпу патрэбен гімн.*
*Як жыў — так і сплыў*
*Няўклюдны паэт:*
*Ці то сам,*
*Ці прыйшлі за ім.*
*Сціхлі санеты,*
*І мовы няма —*
*Ў НІДЗЕ не пакінеш след.*
*Сумна гітара вісіць ля акна,*
*Каб хтосьці дапеў санет.*

***Народнаму пісьменніку Беларусі, Герою Сацыялістычнай Працы, акадэміку Шамякіну І.П. з нагоды 75-годдзя з дня нараджэння***

Глыбокапаважаны Іван Пятровіч!

Сардэчна віншую Вас з 75-годдзем з дня нараджэння.

Ваш юбілей святкуе ўся Беларусь, для якой Вы так многа зрабілі на ўсіх узроўнях культурнага і грамадскага жыцця. Ваш талент пісьменніка, вострае адчуванне рэчаіснасці заўсёды служылі сцвярджэнню гуманістычнай думкі, выхаванню ў чытачоў такіх высокіх чалавечых якасцей як мараль, дабро і справядлівасць.

З юнацкіх гадоў Вы абралі мэтай свайго жыцця служэнне Бацькаўшчыне. Працавалі ў народнай гаспадарцы. У гады суровага ліхалецця змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны. А потым падымалі з руін разбураную вёску, настаўнічалі. Сур'ёзны пісьменніцкі роздум і ўдумлівае асэнсаванне з'яў і падзей, звязаных з жахамі гітлераўскай акупацыі, дапамаглі Вам знайсці сапраўды глыбокую плынь у савецкай пасляваеннай прозе, праявіць сваю творчую індывідуальнасць, мастацкім словам яскрава данесці да кожнага з нас не толькі ўласныя франтавыя ўспаміны, але і тое, што адбывалася ў час фашысцкай навалы пад кожнай сялянскай страхой.

Шырока вядомы беларускаму чытачу Вашы раманы, зборнікі апавяданняў, у якіх разам з распрацоўкай тэмы вайны ўзнімаюцца пытанні грамадзянскай адказнасці чалавека перад самім сабой, народам і гісторыяй. Вашы літаратурныя творы не аднойчы экранізаваліся, па іх былі зроблены інсцэніроўкі ў тэатрах краіны. Шырокі грамадскі рэзананс атрымалі Вашы п'есы, публіцыстыка і літаратурная крытыка. Вы ўнеслі важкі ўклад у развіццё беларускай энцыклапедычнай думкі. Мы ведаем і шануем Вас як таленавітага арганізатара, высокасумленнага, самаадданага і працавітага чалавека. Ваша праца літаратара і грамадскага дзеяча адзначана многімі высокімі ўзнагародамі, ганаровымі званнямі.

Шчыра жадаю Вам, дарагі Іван Пятровіч, моцнага здароўя на многія гады, творчага натхнення, шчасця і дабрабыту! Спадзяюся, што Вы парадуеце прыхільнікаў свайго таленту новымі мастацкімі творамі, якія заўсёды нясуць шмат цікавага, нязведанага і мудрага!

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*30 студзеня 1996 г.*

**ГАСЦЁЎНЯ**

## Трывога і шчасце Івана Шамякіна

ПАМЯТАЮ, як да мяне ў рукі першы раз трапіла кніга Івана Шамякіна. Стоячы перад кніжнай шафай у роздуме, што б гэта такое пачытаць, я звярнулася па дапамогу да маці. Яна ўзяла з паліцы кніжку ў бела-жоўтай вокладцы, з хвіліну патрымала яе ў руках, думаючы пра нешта, потым аддала мне са словамі: «Ты ў мяне ўжо вялікая. Чытай. Думаю, табе ўсё будзе зразумела, і кніжка спадабаецца». Мне было тады дванаццаць гадоў. Кніжка называлася «Сэрца на далоні»...

Так я першы раз пазнаёмілася з Шамякіным. Тую першую кнігу чытала-перачытвала, дый зараз, прыязджаючы дадому, бяру яе з паліцы, як старога сябра, гартаю старонкі, часам перачытваю эпізоды, хоць ледзь не ўвесь раман ведаю амаль на памяць... Потым яшчэ некалькі разоў адкрывала для сябе Шамякіна нанава. Спачатку — «Трывожнае шчасце»: яго юныя героі думалі так, як я ў свае шаснаццаць, адчувалі тое, што ішло ва унісон з маімі пачуццямі. Прыемна было пасля адчуваць сябе ў ролі настаўніцы, урокі якой карыстаюцца шумнай папулярнасцю. «Трывожнае шчасце» — праграмны твор у адзінаццатым класе, а хлопцаў-троечнікаў палохала тоўстая кніга. Але за сюжэтам яны сачылі пільна, чытаючы асобныя раздзелы, а потым прымушаючы мяне расказваць ім на перапынках, што было далей. Іх увага была выклікана зусім не страхам атрымаць «двойку» за няведанне: дагэтуль таксама былі ў праграме вялікія творы, але ніхто не прасіў пераказваць іх. Гэта была сапраўдная зацікаўленасць лёсам герояў — спачатку нашых равеснікаў, пасля крыху старэйшых за нас. Калі мы «праходзілі» гэты твор, быў май, цвілі сады, гэтак жа, як у «Непаўторнай вясне...»

Потым быў раман «Вазьму твой боль». Прачытаўшы яго, дні два хадзіла задуменная, маўклівая, чым нямала здзіўляла сваіх дамашніх. А я проста зноў і зноў «пракручвала» ў галаве сюжэт, і доўга думала, ці змагла б вось так, як гераіня. Урэшце, вырашыўшы, што змагла б, супакоілася і...адчула сябе нейкай пасталелай...

Крыху больш года назад быў фільм «Эпілог», зняты па дзвюх аповесцях Шамякіна. І вось зусім нядаўна — кніга «Сатанінскі тур», у якой пяць апошніх аповесцей. Быў спачатку спалох: Божа мой, няўжо гэта той Шамякін, чытаючы якога раней, хацелася любіць людзей, змагацца за іх чысціню, самому быць чыстым, бо гэта — прыгожа. Няўжо ён так змяніўся, што стаў бачыць толькі дрэннае? Пасля прыйшло разуменне, і разам з ім — пачуццё вінаватасці, што ты — часцінка, няхай сабе і самая маленькая, таго сённяшняга грамадства, пра якое так бязлітасна піша пісьменнік...

Так, я знаёмілася з Шамякіным неаднойчы — кожны раз, беручы ў рукі новы яго твор. Але, прызнаюся, не магла адмовіць сабе ў задавальненні пазнаёміцца з ім яшчэ раз — цяпер ужо — асабіста. Хаця і разумела: пісьменніку перад юбілеем, напэўна, ужо надакучылі мае калегі, і цяжка будзе прыдумаць што-небудзь такое, каб Івану Пятровічу не давялося паўтараць ужо сказанага раней. І ўсё ж узялі верх журналісцкае самалюбства (чым я горшая за астатніх?) і чытацкая цікавасць (пэўна, большую ролю ўсё ж адыграла яна): які ён — вядомы пісьменнік, чым і як жыве сёння, аб чым думае, як гаворыць? Што ён увогуле за чалавек? Мая спроба пазнаёміцца з «жывым класікам» нашай літаратуры скончылася паспяхова, і, як мы з Іванам Пятровічам пасля пагадзіліся, гутарка ў нас атрымалася даволі грунтоўная (так гэта ці не, у вас будзе магчымасць вырашыць праз колькі радкоў). Такім чынам, сённяшні госць «Гасцёўні» — юбіляр, народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін.

*(Заканчэнне на 8-й стар.).*

## УСПЫШКА ДЫЗЕНТЭРЫІ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, з 23 па 27 студзеня 1996 года адбылося масавае захворванне на дызентэрыю пацыентаў Полацкай гарадской бальніцы.**

Прычынай шпіталізацыі 63 чалавек з'явілася парушэнне правілаў прыгатавання ежы і асабістай гігіены аднаго з работнікаў харчовага блока. Усе захворванні лёгкай і сярэдняй ступені. За выхадныя новых выпадкаў захворвання на дызентэрыю не выяўлена. Сітуацыя знаходзіцца пад кантролем.

**Сяргей ПРОТАС.**

## НЕ ТРЫМАЙЦЕ ДОМА ПУСТУЮ ШКЛАТАРУ

**Сёння, відаць, пустыя бутэлькі на лоджыях альбо балконах, у калідорах ці ў кладоўках не дужа і залежваюцца. І ўсё ж звернем увагу на цэны, па якіх зараз прымаюць шклатару.**

Пустая бутэлька з-пад малака альбо кефіру каштуе 500 рублёў, піўная — на 300 рублёў даражэй. Бутэлька з-пад гарэлкі (зразумела, нашай, айчыннай — чужаземныя «літроўкі» не прымаюць) з доўгім горлам — 1000 рублёў. А тыя бутэлькі, ёмістасць якіх 0,7 літра — 1300 рублёў.

Куды больш складана са слоікамі з-пад смятаны. Іх зараз чамусьці не прымаюць. Спасылаюцца ў прыёмных пунктах на нежаданне малаказаводаў забіраць гэтую тару.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне намесніку міністра культуры і друку Уладзіміру Пятровічу Рылатку з нагоды напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

# СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКАМІ



*28 студзеня Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Георгіевіч Шарэцкі ў Навагрудскім раёне сустрэўся са сваімі выбаршчыкамі і правёў прыём. У вёсцы Лаўрышава С. Шарэцкі ўсклаў кветкі да помніка-абеліска аднасяльчанам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

**НА ЗДЫМКУ: У час гутаркі з жыхарамі вёскі Лаўрышава.**

### ПРАМАЯ ЛІНІЯ

**Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ**

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкі згадзіўся прыняць удзел у «прамой лініі» з чытачамі «Звязды». Яна адбудзецца 5 лютага з 14 гадзін. У гэты дзень Сямён Георгіевіч адкажа Вам па тэлефонах: 68-29-21, 32-38-21.

Да 4 лютага папярэдне прымаюцца пытанні да С.Г. Шарэцкага па тэлефоне 68-27-40.

ПЫТАННІ МОЖНА ДАСЫЛАЦЬ І ПА ПОШЦЕ.

### СПОРТ-ЭКСПРЭС

*ФРЫСТАЙЛ*

## НА ГЭТЫ РАЗ БЕЗ ПРЫЗАВОГА МЕСЦА

Канадскі горад Трэмблент гэтымі днямі праводзіў чарговы этап Кубка свету па фрыстайлу. У спаборніцтвах выступілі і тры беларускія лыжныя акрабаты: герой Блэкенрыджа Васіль Вараб'ёў, а таксама Дзмітрый Дашчынскі і Аляксандр Ткачэнка. На жаль, поспех тыднёвай даўнасці мінчаніну Васілю Вараб'ёву паўтарыць не ўдалося. На гэты раз ў яго 7-е месца. Сябры па камандзе, Дашчынскі і Ткачэнка, занялі адпаведна 10-ю і 21-ю пазіцыі.

*ХАКЕЙ*

## БОЛЬШ ЯК ДЗВЕ ШАЙБЫ НЕ ЗАБІВАЕМ

Хакеісты мінскага клуба «Цівалі» вось ужо каторы тур здзіўляюць сваіх балельшчыкаў зайздросным пастаянствам: больш як дзве шайбы ў вароты сапернікаў не забіваюць, прапускаючы пры гэтым на адну-дзве больш. Вось ужо дзве гульні запар «ціваляты» прайграюць з лікам 2:3. Апошні раз гэта было ў дамашняй сустрэчы з новакузнецкім «Металургам». Цікава, як хутка гэта сумная серыя скончыцца. Магчыма, нават сёння. Мінчане на сваёй лядовай пляцоўцы прымаюць новасібірскую «Сібір».

*ФУТБОЛ*

## ВЫХАД У ЧВЭРЦЬФІНАЛ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ ЗАГАДЗЯ

Заўтра ў розыгрышы Кубка СНД па футболу, які праходзіць у Маскве, настае пара чвэрцьфіналаў. Пасля дзвюх перамог над туркменскім «Капетдагам» (5:3) і эстонскай «Флорай» (2:0) забяспечылі сабе выхад у гэты этап розыгрышу і мінскія дынамаўцы, як, дарэчы, і іх аднаклубнікі з Кіева. Сустрэча дзвюх дынамаўскіх каманд праходзіла ўчора, аднак насіла яна чыста прынцыповы характар: хто зойме першае месца ў групе «С». Сапернікамі нашых футбалістаў будуць ці аднаклубнікі з Тбілісі, ці вільнюскі «Жальгірыс».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ПАЗІЦЫІ І ПАДЫХОДЫ ВЫСВЕТЛЕНЫ. БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ ВЫНІКАЎ

**«Звязда» ўжо паведамляла аб шматлікім «дэсанце» прадстаўнікоў дзелавых колаў ФРГ, які высадзіўся ў Мінску ў сярэдзіне мінулага тыдня. Прадстаўнічая дэлегацыя, якая прыбыла па запрашэнню Аляксандра Лукашэнкі, за некалькі дзён знаходжання на Беларусі мела мноства кантактаў ва ўрадзе, міністэрствах і ведамствах, наведала дзяржаўныя ўстановы, прадпрыемствы і прыватныя фірмы. Але галоўнай падзеяй для нямецкіх бізнесменаў з'явілася размова з Прэзідэнтам.**

Па тварах прысутных на гэтай сустрэчы было бачна, што ім, дзелавым людзям з Захаду, вельмі важна перад тым, як прымаць рашэнне, развіваць далей ці не супрацоўніцтва з нашай краінай, даведацца з вуснаў кіраўніка дзяржавы менавіта яго меркаванні аб канкрэтных захадах беларускіх уладаў па стварэнню спрыяльных умоў для інвестыцый з Германіі.

Цяжка сказаць, ці поўнасцю была задаволена іх цікаўнасць, але па многіх ключавых пытаннях, здаецца, яны ўсё ж праяснілі для сябе сітуацыю. І, бадай, асноўнае, што вынеслі немцы з дыялогу з Прэзідэнтам, дык гэта перакананне ў тым, што Беларусь кроўна зацікаўлена ў шырокім, доўгатэрміновым і шматгранным супрацоўніцтве з аб'яднанай Германіяй. А значыць, абяцанні Аляксандра Лукашэнкі ўсямерна дапамагаць ім — не пустая рыторыка, бо за імі стаіць вялікі эканамічны інтарэс маладой незалежнай дзяржавы.

Немцы адказна і зацікаўлена аднесліся да сустрэчы з Прэзідэнтам. Яны самі прызначылі пяць выступаючых, кожны з якіх выклаў пэўнае кола пытанняў і праблем. Але размова выйшла за межы рэгламенту, і пасля пятага прамоўцы слова ўзяў шосты, за ім сёмы і г.д.

Немцаў цікавіла многае, і ў першую чаргу тое, што збіраюцца ў нас зрабіць для таго, каб умовы ўкладання замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі былі больш выгаднымі, чым у іншых, у прыватнасці, суседніх з намі краінах. Наколькі будуць абаронены іх маёмасць і капіталы ад непрыемных нечаканасцей? Ці будуць зменены мытныя правілы, якія, па словах нашых гасцей, ствараюць цяжкасці пры вывазе і рэалізацыі гатовай прадукцыі, што не спрыяе прытоку інвестыцый. Як складваюцца адносіны ў Беларусі з іншымі дзяржавамі СНД? Калі пачне дзейнічаць закон аб свабодных эканамічных зонах? Калі можна будзе іншаземным бізнесменам набываць буйную маёмасць і зямлю ва ўласнасць?

А вакол пытання, чаму на Беларусі так марудна ідзе працэс прыватызацыі (яно прагучала некалькі разоў), увогуле ўзнікла дыскусія. Прэзідэнт на схаваныя пад ветлівымі словамі папрокі заўважыў: у свеце яшчэ не выпрацаваны крытэрыі ацэнкі тэмпаў прыватызацыі. На думку Аляксандра Лукашэнкі, не трэба яе штучна запавольваць, але гэтак жа небяспечна яе штучна і паскараць, праводзіць абвальна.

Прэзідэнт развеяў занепакоенасць гасцей лёсам нашай нацыянальнай валюты: у бягучым годзе ўзровень інфляцыі не перавысіць 2,5 працэнта. Беларускі рубель будзе падтрымлівацца і ўмацоўвацца.

Надзвычай станоўчую і эмацыянальную рэакцыю Прэзідэнта выклікала выступленне Ірыны Вайсхаар, прадстаўніцы выставачнай кампаніі «Дойчэ Месэ АГ». Яна закранула тэму правядзення Дзён беларускай эканомікі на «Гановерскім кірмашы-96». Аляксандр Лукашэнка сказаў Ірыне Вайсхаар і яе калегу Міхаэлю Боерману (ён таксама ўдзельнічаў у сустрэчы), што яны вельмі шмат зрабілі для нашай дзяржавы за апошнія месяцы і ён бы ў гэтым сэнсе не знайшоў, каго можна было б паставіць побач з імі за мяжой. Яны — неафіцыйныя нашы паслы ў Германіі, і Беларусь знойдзе магчымасць ім аддзячыць.

Безумоўна, у тым, што Германія стала для незалежнай Беларусі партнёрам № 1 на Захадзе, вялікая заслуга і нашых дыпламатаў, і спецыялістаў у знешнеэканамічнай дзейнасці, і шматлікіх вытворцаў, якія здолелі прывабіць пераборлівых у сувязях немцаў. Але бясспрэчна і тое, што сваю палову гэтага шляху ў поўнай меры прайшлі і яны. Без гарачага імкнення дзелавых людзей ФРГ да ўсталявання кантактаў з намі паказчыкі гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва абедзвюх краін наўрад ці былі б на сённяшнім узроўні.

Германія зусім не выпадкова выступае за свабоду сусветнага гандлю і супраць любых праяў пратэкцыянізму. Высокі дабрабыт яе жыхароў у многім залежыць ад экспарту прадукцыі і паслуг. А прадаюць за мяжу немцы шмат — адну трэць валавога грамадскага прадукту. Адсюль іх велізарная зацікаўленасць у больш шчыльным асваенні новых рынкаў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, былых рэспублік Савецкага Саюза. У тым ліку і Беларусі.

І ў гэтай вельмі складанай і тонкай справе немцы дасягнулі пэўных вышынь. Як амаль ва ўсім, за што яны бяруцца ўсур'ёз. І нам варта было б павучыцца ў іх не толькі ўменню выпускаць якасную канкурэнтаздольную прадукцыю, хутка рэагаваць на ваганні кан'юнктуры, але і майстэрству прасоўвання сваіх тавараў і паслуг на знешнія рынкі. У Германіі гэту навуку асвойваюць у акадэміях экспарту. І калі меркаваць па росту аб'ёмаў нямецкага экспарту за апошнія два дзесяцігоддзі, то кадры там «куюць» добрыя. Дарэчы, падобныя акадэміі варта было б адкрыць і ў нас.

На фоне ўласцівых для падобнага роду сустрэч афіцыйных заяў аб значэнні, ролі і ўзаемавыгадным характары беларуска-германскага супрацоўніцтва трэба не забываць, што мы, як партнёры, у першую чаргу ўяўляем для немцаў цікавасць па дзвюх прычынах: 1) у нас даволі кваліфікаваная працоўная сіла; 2) каштуе гэта сіла значна танней, чым у Германіі. Гэта, у прыватнасці, не хавалі мае нямецкія субяседнікі з ФРГ Маціяс Вебер і Гюнтэр Курт. Яны прыбылі ў Мінск раней, няблага вывучылі нашу спецыфіку, і таму іх меркаванне ўяўляецца цікавым для разумення падыходаў нямецкіх бізнесменаў у ацэнцы нашых магчымасцей.

Абодва яны — прадстаўнікі так званай праграмы «Пратрэйд», якая ўжо трэці год ажыццяўляецца на Беларусі і аказвае фінансавую падтрымку недзяржаўным фірмам, што выпускаюць прадукцыю з экспартным патэнцыялам. Яе ініцыятар — германскае аб'яднанне па супрацоўніцтву ў галіне тэхнікі, якое садзейнічае пастаўкам экспартнай прадукцыі ад вытворцы з краін, якія развіваюцца, да пакупніка ў ФРГ.

Такая вось цікавая арганізацыя. І калі тое ці іншае прадпрыемства малога ці сярэдняга бізнесу адпавядае патрабаванням, то яно можа разлічваць на аплату 50—70 працэнтаў усіх сваіх выдаткаў па ўдзелу ў вядомых Гановерскіх кірмашах.

Гэтыя два немцы прыехалі ў Беларусь з канкрэтнай мэтай: адабраць па некалькі (да дзесяці) прадпрыемстваў, фірмаў з экспартным патэнцыялам на ЦэБІТ (самую буйную ў свеце выстаўку камп'ютэрнай тэхнікі і тэлекамунікацый) і на «Гановерскі кірмаш-96» (туды звычайна прыязджаюць усе вядомыя ў свеце фірмы, якія займаюцца выпускам сродкаў вытворчасці). Праўда, у пана Вебера была яшчэ адна задача: знайсці сярод беларускіх распрацоўшчыкаў камп'ютэрных праграм партнёраў для нямецкіх фірмаў, якія б маглі разам рэалізоўваць буйныя салідныя праекты.

Задача, як прызнаўся пан Вебер, на практыцы аказалася няпростай. Напрыклад, аналагічную работу ў Маскве значна спрошчвала наяўнасць там спецыялізаваных даведнікаў «Уся камп'ютэрная Масква», «Уся камп'ютэрная Расія».

У Мінску падобных выданняў пан Вебер не знайшоў. Таму прыйшлося шукаць здатных да супрацоўніцтва партнёраў па іншых крыніцах. Справу ўскладняла тая акалічнасць, што прыватныя фірмы, якія моцна стаяць на нагах, паспяхова развіваюцца, не любяць сябе афішыраваць, імкнуцца трымацца ў цяні, каб на іх не «наехаў» дзяржаўны ці злачынны рэкет. Але пан Вебер праявіў зайздросную працаздольнасць і ўпартасць: за 10 дзён ён наведаў 23 фірмы. Працаваў з ранку да позняга вечара. І не дарэмна, як высветлілася.

— Я пазнаёміўся з фірмамі, якія інтэнсіўна працуюць з заходнімі партнёрамі: нямецкімі, французскімі, англійскімі, галандскімі, амерыканскімі, італьянскімі. Вельмі цікава было пабываць у лабараторыях універсітэта, Акадэміі навук. Многія спецыялісты добра валодаюць англійскай мовай, а тыя, хто працуе з арыентацыяй на Германію, — нямецкай. Але галоўнае, што большасць з гэтых фірмаў на 80—90 працэнтаў гатовы працаваць з Германіяй. Спачатку можна выступіць у ролі субпадрадчыка, паступова вывучыць нямецкі рынак, яго асаблівасці і патрэбы, а затым прапанаваць на продаж свой прадукт, — расказаў эксперт.

А на пана Курта вялікае ўражанне зрабіла наведванне фірмаў, якія спецыялізуюцца ў галіне лазерных тэхналогій. У іх ёсць усе шанцы стварыць з нямецкімі партнёрамі прадукт, з якім можна было б выйсці на сусветны рынак.

Аб жаданні немцаў з намі супрацоўнічаць, нягледзячы на ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перашкоды, сведчыць і той факт, што на Беларусь прыехалі не 50 чалавек, як раней планавалася, а 73. Сярод іх прадстаўнікі славутых фірмаў, якія без перабольшання можна аднесці да непасрэдных стваральнікаў «германскага эканамічнага цуда». Гэта «Круп Хош», «Баер АГ», «Сіменс», «Дрэзднер Банк», «Дойчэ Банк» і інш.

Але ў дадзеным выпадку цікавым з'яўляецца не колькасць членаў дэлегацыі і яе якасны састаў (што, зразумела, ужо само па сабе вельмі важна), а тая хуткасць, з якой гэтыя занятыя людзі сабраліся ў дарогу. Бо Прэзідэнт Лукашэнка ўпершыню паставіў задачу прывезці ў Мінск нямецкіх бізнесменаў у канцы лістапада мінулага года. Недзе 10 снежня аналагічная каманда паступіла ў беларускае пасольства ў Боне. А час, трэба сказаць, для падобнай арганізацыйнай работы быў нязручны: у Германіі набірала сілу калядная гарачка. Немцы ўжо больш думалі пра будучае свята, падарункі блізкім, сябрам, калегам... Тым не менш ,пасля нядоўгіх ваганняў і роздуму нямецкія разважлівасць і разлік, прагматызм перамаглі. Яны прыехалі і інтэнсіўна працавалі.

Цяпер справа за тым, ці хопіць у нас дзелавітасці спаўна выкарыстаць магчымасці, якія адкрыліся пасля візіту дэлегацыі ФРГ. Тым больш, што наведванне Беларусі не абмежавана аднымі кантактамі і размовамі. 25 студзеня ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей было падпісана пагадненне аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве з акцыянерным таварыствам «Сіменс» — гігантам не толькі нямецкай, але сусветнай эканомікі. Пагадненнем прадугледжваецца сумесная праца ў галінах энергетыкі, транспарту, вытворчасці медтэхнікі, рэалізацыі праектаў па развіццю інфраструктуры, мадэрнізацыі і аўтаматызацыі прадпрыемстваў і г.д. Ужо ў бліжэйшы час будзе створана сумесная рабочая група экспертаў, у якую ўвойдуць як прадстаўнікі беларускіх міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, так і спецыялісты адпаведных дэпартаментаў «Сіменса». Яны разам падрыхтуюць шэраг канкрэтных праектаў, дадуць папярэднюю ацэнку неабходных аб'ёмаў інвестыцый, вызначаць магчымасці фінансавання.

У нас часта, калі заходзіць размова пра здабыткі ФРГ, высокі жыццёвы ўзровень яе жыхароў, любяць паўтараць звыклую фразу пра германскі эканамічны цуд. А ці быў гэты цуд? Людвіг Эрхард, першы міністр пасляваеннай Заходняй Германіі і адзін з тых, каму яна абавязана сваім імклівым эканамічным развіццём, гаварыў, што ніякага цуда не здарылася. Па яго словах, меў месца толькі вынік сумленных намаганняў усяго народа, які на аснове свабодных прынцыпаў атрымаў магчымасць выкарыстоўваць уласную ініцыятыву, свабоду і энергію.

Можа, і праўду казаў Эрхард?

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*ГАРАДСКІ МАТЫЎ*

# Дзень настальгіі ў г. Барысаве

**Гэты горад ставіць у тупік адразу. Калі стаць спінай да вакзала, то вочы ўпруцца ў роўненькі праспект. Ён называецца праспектам Рэвалюцыі. Тут жа задаеш сабе пытанне: якая рэвалюцыя маецца на ўвазе? Да 1985 года адказ мог быць адзіны — вядома ж, кастрычніцкая, 17-га года. Цяпер узнікаюць сумненні. У тым жа 17-м была лютаўская рэвалюцыя, у 1905-м — яшчэ адна, самая першая. Дык вось: якая? Паламаўшы галаву, прыходжу да высновы — гарадскія ўлады захоплены ідэяй рэвалюцыі ўвогуле, як бы абстрактна. Тады ўсё становіцца на свае месцы...**

ЛЮБЫ ГОРАД ПАЧЫНАЕЦЦА З ВАКЗАЛА, і Барысаў — не выключэнне. Больш-менш рэгулярна я тут бываю з 1981 года і мне цікава назіраць за зменамі. Свайго роду даследчая лабараторыя.

На вакзале вас першай сустракае дошка аб'яў: «Шукаюць спадарожніка жыцця». Вось, значыць, што хвалюе гараджан. Далей назіраецца шчыльная зграя таксістаў. Кідаецца ў вочы, што пераважаюць іншамаркі. Нават год назад гэта ўявіць было немагчыма. Цяпер можна праехацца на «Мерсэдэсе». Прэстыжна і за тую ж цану. На некалькі хвілін адчуеце сябе гаспадаром жыцця.

Вакзальны гастраном пазнаў не адразу. Як быццам, усё тое ж і... не. Нарэшце, «уехаў»: ёсць прадукты, шмат і розныя. А народу мала. Аказваецца, прамая залежнасць — ёсць прадукты — няма іх пакупнікоў.

Праспект Рэвалюцыі ў самым пачатку ўпрыгожаны гатэлем (ён жа — гасцініца) «Бярэзіна». Тут шмат чаго новага. Напрыклад, багатыя, вішнёвага адцення дзверы з залатымі ручкамі-шарамі. Круціш шар — і дзверы адкрываюцца. Я пакруціў і так прыціснуў палец, што ажно ўспацеў. Ручка імпартная, зроблена, праўда, па-нашаму. А нумары ёсць. І адна- і двухмесныя. Усе па 100 тысяч. Я б, скажам, на свой чысты аклад лёгка пражыў бы пяць дзён. Дзякуй Богу, на аклад зараз мала хто жыве...

«Свята адбылося. Казачна прайшло навагодняе свята для дзяцей-інвалідаў г. Барысава на базе Дома культуры. У гасцях у дзяцей былі Дзед Мароз, Снягурка і персанажы дзіцячых казак. Пасля прадстаўлення ля ёлкі творчымі сіламі Дома культуры дзецям быў дадзены святочны канцэрт...» (Тут і далей — вытрымкі з газеты «Адзінства».)

Праспект Рэвалюцыі цягнецца да галоўнай плошчы горада. Нечым нагадвае музычны твор: спакойны пачатак, драматычнае ўзмацненне тэмпу, потым плаўны рух і — кульмінацыя. У пачатку праспекта дамы абадраныя ў меру, далей — больш, ля самой плошчы — парадак. Ілюстрацыя да гарадскога бюджэту.

Праз кожныя 100 метраў стаяць латочніцы. Гэта, вядома, лепш, чым міліцыянеры. Праўда, кідаецца ў вочы страснае імкненне гандлю нешта прадаваць. Верагодна, каб неяк звесці канцы з канцамі. Раней усё гэта рабілася па загаду звыш. У мэтах задавальнення патрэб працоўных.

Праз кожныя 200—300 метраў — камерцыйныя крамы і кіёскі. Назвы самыя экзатычныя. Напрыклад, «777». Такая, помніцца, была марка партвейну. Дарэчы, яшчэ аб назвах. Афіша ля кінатэатра «Радзіма»: «Бутлегеры» (ЗША), «Белы агонь» (ЗША), «Якая дзіўная гульня» (Рас-і-я!). Зноў 2:1 на карысць Амерыкі...

Павольна рухаючыся, дабіраюся да райвыканкома. Яму папярэднічае дошка Гонару, трэба думаць, перадавікоў чаго-небудзь. (Помню, малым я тлумачыў сэнс гэтага слова так: «Гэта тыя, хто ўсіх перадавіў».)

У перадавікоў спужаныя твары. Да таго ж іх зусім мала. Незанятыя месцы ўпрыгожаны някідкімі фотапейзажамі. Але і іх таксама малавата. Дзе-нідзе на прахожых глядзяць гнутыя шэрыя бляшанкі. Усё гэта вянчаецца цытатай з Ульянава-Леніна: «Мы прыйдзем да перамогі камуністычнай працы». Канешне, канешне, хто ж спрачаецца? Ужо прыйшлі. Праца сапраўды камуністычная. У сэнсе — бясплатная.

У пошуках месца агульнага карыстання мяне занесла на другі паверх. Тут я знайшоў нешта накшталт музея працоўнай славы. Таксама ж за шклом — дзесятак шыкоўных ганаровых дыпломаў у стылі «позняга развітога сацыялізму». Даты ўручэння — 1984-ы, 1986-ы, 1989-ы і г. д. Натуральна, «за поспехі ў... і ў азнаменаванне...» ЦК КПБ, Савет Міністраў, ЦК КПСС, — «свежо предание...»

У райвыканкоме ідуць адразу тры ці чатыры нарады. Чытаю аб'явы: «Семінар ПК школ адбудзецца ў аддзеле адукацыі», «Нарада бухгалтараў праводзіцца ў кабінеце начальніка ўпраўлення с/г-кі», «Савет аддзела адбудзецца ў памяшканні гарвыканкома на 4 паверсе». Насупраць мяне з-за няшчыльна прыкрытых дзвярэй чуецца: «За справаздачны перыяд злачыннасць у раёне мае тэндэнцыю да росту...» Там засядаюць міліцыянеры.

Усе вучацца, раяцца, засядаюць. Прыемна...

«Справаздачы і выбары. У раённай арганізацыі ПКБ—28 пярвічных партыйных арганізацый. На прайшоўшым 4 студзеня пасяджэнні бюро РК ПКБ абмяркоўвалася пытанне аб пачатку і ходзе справаздачна-выбарчай кампаніі. Справаздачна-выбарчыя сходы ў пярвічных арганізацыях ідуць па графіку, завяршыць іх намечана да 15 студзеня...» Дзякуй Богу, я думаў, графік сарвецца.

Культурнае жыццё Барысава сканцэнтравана ў ГДК і адрозніваецца некаторай стракатасцю. (ГДК — чымсьці нагадвае РКК, ручны кулямёт Калашнікава).

Евангелічная царква праводзіць у ГДК вывучэнне Бібліі для ўсіх жадаючых. Карысная справа. Праводзіцца таксама «Настальгічны вечар для пажылых людзей». Для маладых, натуральна, дыскатэка. Для самых маладых функцыянуе клуб «Вясёлыя ноткі».

Мае месца таксама зоамагазін «Поспех» (гледзячы для каго). Зоамагазін у культурнай, з дазволу сказаць, установе сустракаю ўпершыню. Нічога цікавага. Вісяць розныя прадметы адзення, стаіць абутак, ляжыць касметыка. Пытаюся, робячы плаўны жэст у паветры, у прадаўшчыцы:

— Што-небудзь такое, э-э... ёсць? Тыпу кракадзіла...

Аказваецца, няма. Толькі рыбкі і корм для папугаяў. Саміх птушак няма — холадна. Затое ў кутку сіратліва стаяць скрынкі з пустой тарай з-пад гарэлкі...

Працягваю свой звілісты шлях. Ён скіраваны ў бок вуліц Герцэна і Арджанікідзе. Справа даўняя: некалі Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч у якасці спікера зрабіў падарожжа ў Барысаў. Сп. Шушкевіч, помню, быў на прадпрыемствах, правёў нараду і наведаў барак па вуліцы Герцэна.

Жыхары барака напісалі яму пісьмо. Станіслаў Станіслававіч заехаў і выслухаў. Пры гэтым праваліўся ў дзірку на падлозе. Я ездзіў пасля візіту, і жыхары ў дэталях мне ўсё апісалі. Аб чым было і напісана вашым пакорным слугою.

Ба-ба-ба... А баракі ўсе на месцы. Праўда, таго, гістарычнага, я так і не знайшоў. Відаць, знеслі. Верагодна, каб наступны лідэр дзяржавы не ўваліўся ў тую ж дзірку.

З чыстай цікаўнасці я пачаў абыходзіць навакольныя баракі. Ужо на трэцім зрабілася дрэнна. У чацвёрты мяне не пусціў сабачка. Пэўна, я парушыў межы яго ўладання. Сабачка тут грэецца і пільнуе рэдкія кавалкі, што выпадаюць на яе лёс, дакладней, страўнік.

У прынцыпе, можна абысціся пры апісанні гэтай мясцовасці трыма словамі: памыйніцы, прыбіральні і хлеўчыкі. Ці ўвогуле адным: памыйніцы. Але тут жывуць людзі. Ці робяць выгляд, што жывуць. Бо ад аднаго погляду на гэтае жытло можна запіць. Што многія і робяць...

«Няўжо збудзецца? Шведскі прадказальнік надвор'я Эрык Валер прадказвае, што гэта зіма будзе такой жа халоднай, як і ваенная зіма 1939—1940 гадоў. Самым халодным днём зімы яму бачыцца 23 лютага, калі будзе мінус 47 градусаў па Цэльсію...»

Холадна. Нос у мяне падазрона сіні, і я іду грэцца ва універмаг. Тут шмат усяго, але ловіш сябе на думцы, што купіць няма чаго. Тавар пераважна заморскі. Г. зн. прывабны, бліскучы, прыгожы, аднак мала прыстасаваны для нашых суровых умоў. І дарагі. Што таннае, тое, як правіла, аднаразовае.

Прымета часу — паўсюдна стаяць міліцыянеры. Яны міла перамаўляюцца з прадаўшчыцамі і памахваюць дубінкамі. Я думаю, універмаг у райаддзеле лічыцца блатным месцам. Сюды пасылаюць дзяжурыць у якасці заахвочвання...

Раённы вузел сувязі. «Мойша, Мойша песню спел...» — гучыць аднекуль чуллівая песенька. «Як? — перапытвае адна з жанчын. — Мойша?» Тут бяруць і выдаюць пасылкі і пераводы, бандэролі і пенсіі, прадаюць канверты, маркі, скрынкі, шампуні, жаночыя цёплыя калготы.

Калоны ўпрыгожвае інфармацыя і плакаты тыпу «Т. Р. Шаўчэнка. 1964 г. Пошта СССР, 6 к.» Божа, няўжо гэта калісьці было...

Старому не далі пенсію. У старога зусім няма грошай. Ён вяла лаецца з работніцай пошты, праз слова памінаючы Прэзідэнта, пакуль жанчына не ўзрываецца:

— Ды пры чым тут Лукашэнка?!

Я і кажу: пры чым? Ён толькі Прэзідэнт. А мо: ён жа Прэзідэнт? І стары, апусціўшы галаву, ідзе, глядзіць у падлогу і нешта мармыча. Паліто яго на спіне не вельмі акуратна зашыта. Відаць, жыве адзін...

«Выжыве прыплод — выжыве галіна. Галоўны ветурач саўгаса «Мётча» Р. Ф. Кандраценка: — За мінулы год непрудукцыйнае выбыццё цялят па нашай гаспадарцы склала ўсяго прыкладна 15 працэнтаў. Прычым, гэты паказчык стабільны на працягу апошніх гадоў. Як мы гэтага дабіліся?..»

З жывёлай неяк прасцей. «Выжыве прыплод — выжыве галіна» — і ўсе справы...

На вакзале мужыкі неслі ў электрычку скруткі поліэтыленавай плёнкі. Прыйдзе вясна, зладзяць цяплічку, нацягнуць плёнку, пасадзяць розную карысную для чалавека агародніну. Іх прыплод, такім чынам, выжыве...

Людзі дзеляцца на два асноўныя тыпы. Адзін глядзіць на лютаўскае блакітнае неба: «Неба якое... Вясна хутка... Цёпла стане...» Другі: «Неба ўжо блакітнае. Не паспееш — і вось табе, пацякло. Трэба боты купіць». Усё астатняе — гэта адценні і градацыі.

Адзін скажа: «Ды зусім іншае жыццё, што вы!» Апанент парыруе: «З глузду з'ехаў. Зусім дрэнь жытка. Мы ўніз коцімся!» Абодва будуць мець рацыю. Змяненні больш знешнія, хоць не заўважыць іх нельга. Калі гаварыць аб духу, аб псіхалогіі, дзе адбываецца самы галоўны пералом, то там пакуль трывожная цішыня. Ужо добра, што хоць трывожная.

Раней выжывалі, але рабіць гэта было больш проста. Выжываюць і цяпер, праўда, перашкод для гэтага значна болей.

У астатнім — без змен.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*ПЕРАПІСКА*

# Хворыя ў Брагіне не ходзяць начаваць дадому

**«Бальніца ці казэмат?» — так называлася заметка супрацоўніка брагінскай райгазеты «Маяк Палесся» М. Крупейчанкі, змешчаная ў «Звяздзе» 1 снежня. У публікацыі ішла размова аб дрэнным матэрыяльна-санітарным стане мясцовай раённай бальніцы.**

На выступленне газеты начальнік абласнога ўпраўлення аховы здароўя В. Варабей даслаў у рэдакцыю рэагаванне, а копію яго накіраваў намесніку старшыні Гомельскага аблвыканкома А. Ярчаку. У гэтай паперы паведамляецца, што аўтар надрукаванай заметкі пісьмо адправіў і ў адрас начальніка ўпраўлення аховы здароўя.

Для вывучэння фактаў, выкладзеных у ёй, была арганізавана камісія ў саставе намесніка начальніка ўпраўлення В. Юхнеля, намесніка галоўнага ўрача абласной бальніцы Д. Філіпчука і інжынера В. Цыбізава. Яны пры выездзе ў г. п. Брагін праверылі факты, прыведзеныя ў пісьме, сустрэліся з калектывам бальніцы.

Правяраючыя палічылі, што прычынай пісьма з'явіўся канфлікт паміж М. Крупейчанкам і адміністрацыяй бальніцы, сутнасць якога заключалася ў тым, што за парушэнне бальнічнага рэжыму ён быў выпісаны з адлаведнай адзнакай у лістку непрацаздольнасці.

Адміністрацыя бальніцы пастаянна працуе над праблемай паляпшэння матэрыяльнай базы, аднак эканамічнае становішча не дазваляе прывесці бальніцу ў належны стан і ў жадаемыя тэрміны.

Прычынай гэтага з'яўляецца тое, што пасля аварыі на ЧАЭС г. п. Брагін планаваўся да высялення і будаўніцтва, рамонты тут былі забаронены.

У 1992 г. была прынята пастанова Саўміна аб забеспячэнні жыццядзейнасці шэрага райцэнтраў, у тым ліку г. п. Брагіна, і стала магчымым прывядзенне бальніцы ў належны стан.

У раёне запланавана рэканструкцыя і капітальны рамонт будынкаў ЦРБ і іншых медустаноў. Рыхтуецца і часткова ўжо гатова праектна-каштарысная дакументацыя. Пачата будаўніцтва новага харчблока. Працягваецца пракладка цеплатрасы. Аднак работы стрымліваюцца няхваткай фінансавых сродкаў у мясцовым бюджэце і нерэгулярнасцю фінансавання Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях.

Нягледзячы на тое, што летась фінансаванне праводзілася толькі на неадкладныя патрэбы аховы здароўя (у асноўным на зарплату, харчаванне і медыкаменты), крэдыторская запазычанасць медустаноў раёна склала на 20.11.95 г. 745 мільёнаў рублёў, у тым ліку на зарплату, якая не выплачана за кастрычнік, 190 млн. руб. Даўгі ж аховы здароўя вобласці зараз складаюць больш як 86 млрд. руб. Бюджэт раёна больш чым напалову датацыйны і не можа задаволіць усе патрэбы ўстаноў аховы здароўя.

Такое становішча склалася ў большасці медустаноў вобласці, і іх кіраўнікамі, упраўленнем прымаюцца ўсе належныя меры.

Райвыканком планаваў завяршыць пракладку цеплатрасы да бальніцы да пачатку ацяпляльнага сезона, таму сродкі на паліва не выдзяляліся. Калі яе пракладка была прыпынена з-за адсутнасці грашовых сродкаў, райвыканкомам і галоўным урачом прымаліся ўсе меры да набыцця паліва. На жаль, даць цяпло ў бальніцу ўдалося сапраўды толькі 25 кастрычніка.

Зараз запасаў паліва ў бальніцы хопіць прыкладна на месяц, і тэрмінова вырашаюцца пытанні яго далейшай закупкі...

*Калі гэта рэагаванне было падрыхтавана да друку, у рэдакцыю паступілі дадатковыя матэрыялы і з Брагіна ад М. Крупейчанкі. Адзін з іх — копія пісьма начальніку Гомельскага абласнога ўпраўлення аховы здароўя. Мы вырашылі ў крыху скарочаным выглядзе надрукаваць яго таксама:*

**«Чаму хворыя ў Брагіне на ноч пакідаюць халодныя палаты і ідуць начаваць дадому ў цёплыя ложкі?»**

Пішу ад сябе асабіста, але пад гэтым пісьмом — упэўнены — падпішуцца дзесяткі, а то і сотні хворых, якія сёння пакутуюць не толькі ад хвароб, але і ад невыносных умоў у Брагінскай раённай бальніцы. Перш за ўсё здзіўляе і абурае пагарда галоўнага ўрача раёна т. Козіча да нас, хворых. Безапеляцыйная высакамернасць: быццам бы мы, пацыенты, звяртаемся не да афіцыйнага дзяржаўнага служачага, а прыйшлі да яго на кватэру напрошвацца на вячэру.

Не выслухаўшы, не прапанаваўшы сесці, хаця кожны крок даецца з болем, толькі ганарліва і кінуў: маўляў, яму не да нас (а да каго ж?), ён заняты.

А сутнасць справы вось у чым. 17.10.95 г. паклалі мяне ў тэрапеўтычнае аддзяленне. Лягчэй сказаць, што ў мяне не баліць: астэахандроз, цукровы дыябет, хранічны гепатыт — адным словам, цэлы «букет» хвароб. За апошні год большую яго палову валяўся на бальнічных ложках, але, на жаль, адчуваю сябе дрэнна.

У 9-й палаце, дзе ляжаў (аналагічна і ў 8-й, 10-й, бо не сонечны бок), — як у дрэнным склепе: не толькі холадна, дык яшчэ і сыра. Людзі ў верхнім адзенні, што можна апрануўшы пад яе, так і спяць, накрыўшыся, каму колькі ўдасца дастаць, коўдрамі. Сорамна проста пісаць, што ў такіх антысанітарных умовах ляжаць хворыя. Скажам, у пасцель брыдка класціся нават у адзенні. А дзе ж санітарная служба?

Нягледзячы на ўказанні Прэзідэнта аб ацяпленні бальніц, школ, дзіцячых садкоў, у Брагіне быццам не чулі аб гэтым. Спадзяваліся на цэнтральнае ацяпленне ад гарадской кацельні, аднак, як вам вядома, цеплатрасу вядуць і сёння. І халады засталі бальніцу без паліва, у ёй нельга было трываць.

Лечачыя ўрачы дазвалялі мясцовым хворым хадзіць на ноч дамоў. Брагінцы і выкарыстоўвалі такую магчымасць. Звычайна ў 18.00 забіраў сябра на машыне і мяне. У бальніцу дастаўляў да сямі раніцы. Дома не толькі саграваўся, але і рыхтаваў патрэбную ежу. Скажам, у мяне цукровы дыябет, а мне даюць чай з цукрам. Наогул, аб ежы і гаварыць не варта: капуста з капустай. Гэта іншая размова — беднасць. Толькі не бачаць хворыя і людскіх адносінаў з боку кіраўніцтва бальніцы. Нават гарачай вады няма, каб рукі памыць, посуд.

1 лістапада раніцай у палату забег загадчык паліклінікі П. Кабанчук і рашуча заявіў мне: «Выпісваецеся з бальніцы за парушэнне рэжыму. Такі загад Козіча!» Аказваецца, такое рашэнне напаткала і яшчэ пяцярых хворых — з 6-й і 8-й палат.

Тлумачэнняў нашых Кабанчук слухаць не стаў. Лечачых урачоў не было: адна з тыдзень як пайшла ў водпуск, у другой закончылася камандзіроўка. Адкуль галоўны ўрач узяў, што мы пакінулі палату на ноч самавольна? Што мы не прынялі прызначанае ўрачамі лячэнне? А што дрэннага ў тым, калі начавалі дома, а не бедавалі ў бальніцы?

І вось нам траім — мне і двум з 8-й — выдалі лісткі з адзнакай «за парушэнне рэжыму». Парушылі шэсць чалавек, а запіс такі зрабілі толькі траім. Такая воля Козіча. Чаму? Як я ўжо зазначыў, размова ў кабінеце не адбылася, а на наша пытанне ён кінуў: «А вам што, лягчэй ад гэтага будзе, калі і ім так запішам?» Вядома, не лягчэй. Толькі навошта ж такі цынізм, відавочная несправядлівасць? Гэта што, прыватная крама? Адкуль такое самавольства?

**Мікалай КРУПЕЙЧАНКА,**
**супрацоўнік брагінскай раённай газеты «Маяк Палесся», ліквідатар вынікаў чарнобыльскай катастрофы.**

**P. S.** У апошні час знаходзіўся на лячэнні ў Аксакаўшчыне. Да ўсіх астатніх хвароб прыбавіўся вузлавы валляк. У Брагіне гадамі прасвечвалі і запэўнівалі, што ўсё добра, а тут адразу выявілі, і трэба ехаць на аперацыю шчытападобнай залозы. Здароўя ж бракуе. Няма і душэўнага спакою».

**АД РЭДАКЦЫІ**

*Калі параўнаць афіцыйны адказ і «крык душы» раённага журналіста, то ўсё ж хочацца больш верыць хвораму чалавеку, які зведаў на сабе «камфорт» брагінскай бальніцы. Чаму? Кіраўнік Гомельскага абласнога ўпраўлення аховы здароўя В. Варабей ніводнага слова папроку не кінуў у адрас свайго падначаленага. Наадварот, што называецца, выступіў у яго абарону, лічыць Я. Козіча здольным, вопытным спецыялістам. У той жа час усе недахопы ў бальніцы тлумачацца чарнобыльскай катастрофай, бедным бюджэтам, няўвагай мясцовай улады да медустаноў, іншымі прычынамі.*

*Але ж у публікацыі перш-наперш з усёй вастрынёй узнімалася пытанне аб элементарнай антысанітарыі, невыносных умовах, у якіх гібеюць хворыя ў Брагінскай райбальніцы.*

*Тут людзі апынуліся ў становішчы, прабачце, горшым, чым жывёла на фермах. Да ўсяго гэтага да нямоглых пацыентаў грубыя, бесчалавечныя адносіны, пагарда і высакамернасць з боку кіраўніцтва медустановы. Скажыце, можна з гэтым мірыцца? Ні ў якім разе!*

*Як стала вядома з дасланых матэрыялаў, М. Крупейчанка адправіў пісьмо і міністру аховы здароўя рэспублікі І. Драбышэўскай. Рэдакцыя газеты «Звязда» спадзяецца, што міністэрства пасля дэталёвай і прынцыповай праверкі паставіць кропку ў гэтай непрыгляднай гісторыі, прыняўшы канкрэтныя меры.*

# ПЕШКІ

**_Менавіта такімі малакаштоўнымі «драўлянымі» фігуркамі адчуваюць сябе многія чарнобыльцы-ліквідатары ў камбінацыях гросмайстраў-чыноўнікаў_**




**«ЗВАННЕ» чарнобыльца (як і ліквідатара) ніхто не выбіраў і не выбірае. Дaказваць правільнасць выказанага тэзіса пакуль не будзем, а прыгадаем жыццёвы прыклад.**

**«Сям'я аднаго з цяперашніх старшынь калгасаў Чэрвеньскага раёна ў час чарнобыльскай аварыі пражывала ў Хойніцкім раёне. 27—28 красавіка 1986 года дзесяты клас школы, у якой вучылася яго дачка Ірына, накіравалі перабіраць бульбяны бурт.**

**Дырэктар школы выдаў загад аб вызваленні школьнікаў ад заняткаў у сувязі з накіраваннем іх на палявыя работы. А брыгадзір мясцовага калгаса склаў і ведамасць на зарплату, з якой вынікае, што, напрыклад, вядомая ўжо нам Ірына сапраўды ў тыя дні працавала і зарабіла 5 рублёў з капейкамі.**

**Неўзабаве паўстала пытанне аб выдачы дзяўчыне пасведчання ліквідатара. На першым пасяджэнні камісіі ў 1992 годзе мы ёй у гэтым адмовілі. Разважалі так: ну што гэта за «ліквідацыйныя работы» — перабіранне бульбы? Юнакі і падлеткі шаснаццаці-семнаццаці гадоў — якія яны ліквідатары? Аднак бацька Ірыны з гэтым рашэннем не пагадзіўся, і мы ўдваіх пайшлі высвятляць справу ў тагачасны Дзяржкамчарнобыль.**

**Там глянулі — падобныя выпадкі ў Законе аб сацыяльнай абароне пацярпеўшых ад Чарнобыля не адлюстраваны, а трэба ж даваць канкрэтны адказ. Нам і сказалі: рыхтуйце дакументы на міжведамасную камісію Дзяржкамчарнобыля. У выніку пасведчанне ліквідатара дзяўчыне выдалі. І цяпер мы гэтае пасведчанне на законных падставах перарэгістравалі».**

**(З размовы з намеснікам старшыні камісіі па выдачы пасведчанняў ліквідатара вынікаў аварыі на ЧАЭС Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Мінскага аблвыканкома П. Кузьміным.)**

**Усё добра, што добра канчаецца. І, як кажуць, дай Бог дзяўчыне жыць далей нармальным чалавечым жыццём.**

**А вось што дасць Усявышні Ганне Мікалаеўне Каваленка, жыхарцы вёскі Галаўныя Ляды Бярэзінскага раёна, якая ў час ядзернай катастрофы і пасля яе жыла і працавала ў зоне эвакуацыі на Брагіншчыне? Адказ на гэта ведаюць, мабыць, толькі чыноўнікі самых розных рангаў, якія ў красавіку 1992 года выдалі ёй пасведчанне ліквідатара, а ў лютым 1995 года... адабралі яго, а адначасова — і адпаведную пенсію. Заўважце: ліквідатара «ліквідавалі» раней як за паўгода да таго часу, калі пачалася ўсеагульная перарэгістрацыя. Адкуль такі спрыт?**

Спачатку паслухаем мужа гераіні нашай сумнай публікацыі — інваліда Чарнобыля другой групы Міхаленку Рыгора Фадзеевіча:

— У свой час я, як інвалід Чарнобыля, па закону атрымаў кампенсацыю ў памеры сямі тысяч рублёў. Крыху паклаў на ашчадную кніжку, каб купіць сёе-тое з бытавой тэхнікі. Як інвалід, што мае пэўныя льготы, не раз хадзіў да старшыні Бярэзінскага райвыканкома К. Мельнікава, яго намесніка У. Жукоўскага (цяпер ён — старшыня райсавета), старшыні нашага Багушэвіцкага сельсавета А. Кнігі і іншых адказных асоб. Усе занатоўвалі мае просьбы і коратка адказвалі: «Крыху пачакай!» Прайшоў і год, і два, а ў выніку наша сям'я засталася ў дурнях.

Былі з боку сям'і чарнобыльцаў-перасяленцаў і іншыя спробы дабіцца ажыццяўлення на практыцы некаторых належных ільгот. Напрыклад, каб забяспечыць сябе на зіму палівам. Аднак у чаргу на атрыманне торфабрыкету Р. Міхаленку... наогул не ўключылі — настолькі «бліскуча» спрацавалі ў мясцовым сельсавеце.

З гэтымі і іншымі скаргамі нашы бедакі чарнобыльцы зноў да У. Жукоўскага ў райвыканком. Ці трэба здзіўляцца, што праходзіў месяц за месяцам, а ў адказ скаржнікам — пагардлівае маўчанне? Мы ж ведаем, якімі алімпійскімі багамі адчуваюць сябе пад засенню Закона «Аб мясцовым самакіраванні» вялікія і малыя чыноўнікі!

Вось тады, страціўшы цярпенне, Р. Міхаленка і напісаў скаргу ў Мінскі аблвыканком — на імя намесніка старшыні В. Майко. З вобласці ў раён пайшлі афіцыйныя пісьмы, пачаліся тэлефонныя званкі, а з сельсавета да перасяленцаў завіталі правяраючыя — і зноў глуха, як у танку. У выніку гара, як кажуць, нарадзіла мыш: ад спадара В. Майко нашы скаржнікі атрымалі трафарэтную адпіску: выкладзеныя факты, маўляў, «не адпавядаюць сапраўднасці».

— І тут, — чухае патыліцу Рыгор Фадзеевіч, — я сам падліў масла ў агонь — даволі адкрыта пагутарыў па тэлефоне з В. Майко. Сказаў прыкладна так: «Не думаў, што ў такой установе маюцца бюракраты, аднак, аказваецца, яны ў вас водзяцца». Ён ускіпеў: як так? Я яму даказаў гэта фактамі, якія быццам «не адпавядаюць»... Пасля гэтага зноў былі афіцыйныя паперы, а ў маі 1994 года па пытаннях торфабрыкету, газавых балонаў і іншага да нас дамоў завітала прадстаўнічая камісія ў саставе двух спецыялістаў з аблвыканкома, таго ж У. Жукоўскага, А. Кнігі. І нарэшце, з Мінска прыйшло афіцыйнае пісьмо-тлумачэнне: мне, як інваліду, пацярпеўшаму ад Чарнобыля, і жонцы-ліквідатару на год належыць пяць газавых балонаў па льготных цэнах (а інакш нікому нічога немагчыма было даказаць).

У тым апошнім пісьме знайшлося нямала месца і для агульных апаратных парад тыпу: калі ўзнікнуць новыя праблемы, то званіце... Аднак інвалід-чарнобылец, умудроны вопытам «адносінаў з уладамі», нікуды званіць больш не стаў. Зразумеў, што папяровымі скаргамі і званкамі бюракратычнага абуха не пераб'еш. Да яго дайшло галоўнае ў нашым сённяшнім жыцці: не трэба «высоўвацца», скардзіцца на начальства, адстойваць свае чалавечыя і «чарнобыльскія» правы. Куды больш выгадна сядзець ціха, як мыш пад венікам. Калі ж абвастрыў адносіны з «вышэйстаячымі», то абавязкова атрымаеш апляуху...

Усе вышэйпрыведзеныя падзеі, а таксама іншыя факты і даюць падставу Ганне Мікалаеўне і Рыгору Фадзеевічу сцвярджаць: менавіта гэтае «абвастрэнне адносінаў» і паслужыла пачаткам «справы ліквідатара Каваленка».

Ужо вядомы нам намеснік старшыні камісіі Камітэта сельгасхарчу Мінскага аблвыканкома П. Кузьмін заяўляе, аднак, іншае:

— Я думаю, што гэтае пытанне ўзнікла тады, калі Каваленка пачала афармляцца на льготную пенсію. У такім выпадку ўсе дакументы правяраюцца вельмі ўважліва. Інакш, магчыма, да самай перарэгістрацыі яе і не чапалі б — ні Кузьмін, ні хто іншы.

Скажам адразу: гэтая заява — не што іншае, як спроба напусціць туману, яна не вытрымлівае ніякай крытыкі. Ільготную пенсію, як ліквідатар, Ганна Каваленка атрымлівала тады ўжо больш як два з паловай гады — з чэрвеня 1992-га. Так што праяўленая «ініцыятыва» была яўна запозненай, затое вельмі выбарачнай, адраснай.

На гэтую думку наводзіць і такі факт: за ўсе гады да перарэгістрацыі, па словах самога П. Кузьміна, камісія па выдачы пасведчанняў ліквідатара пазбавіла гэтых дакументаў толькі 4 чалавек (у тым ліку і Г. Каваленка). У час жа перарэгістрацыі такіх «пазбаўленых» аказалася ўжо 35 — і гэта яшчэ не апошняя лічба.

Вось дзе было поле дзейнасці для камісіі, вось колькі «памылак» трэба было выпраўляць у тым плане, што ў свой час пасведчанні выдаваліся не заўсёды абгрунтавана. Толькі навошта адшукваць такіх людзей? Яны ж настрою чыноўнікам не псуюць, сядзяць ціха — «пад венікам».

У пісьме ў рэдакцыю газеты Г. Каваленка расказала, як яна зрабілася «лішэнкай». Давайце на хвіліну паставім сябе на месца гэтай жанчыны. Яна чакае пенсіённых грошай за сакавік 1995 года, а іх не прыносяць. Па тэлефоне ж з мясцовага паштовага аддзялення адказваюць: а ў вас няправільныя, быццам нават падложныя дакументы. У раённым аддзеле сацзабеспячэння на тэлефонны званок наогул адказваюць па-пракурорску: «А ў вас яшчэ не забралі пасведчанне ліквідатара?!» І ўсё гэта лічыцца нармальнымі адносінамі да чалавека, тым больш чарнобыльца, нявінна пацярпеўшага? У якой, аднак, халоднай краіне мы жывём!

У размове з аўтарам гэтых радкоў Ганна Мікалаеўна ніяк не магла зразумець: «Чаму ж мяне не запрасілі ў Мінск на субяседаванне, не прад'явілі прэтэнзій, каб я магла ўсё растлумачыць, а зрабілі сваю справу цішком, за маёй спінай?»

Намеснік старшыні Бярэзінскага райвыканкома па праблемах Чарнобыля Уладзімір Абрамовіч у час разбору сітуацыі выказаўся больш прафесіянальна:

— Самае першае, што павінна была зрабіць камісія Аблсельгасхарчу ў адносінах да Г. Каваленка, — гэта растлумачыць ёй сутнасць справы, даць копіі дакументаў з адмовай у праве на пасведчанне ліквідатара, выкласці ўсю матывацыю і падставы такой адмовы. Відаць, трэба было праінфармаваць і нас, мы таксама маглі б нешта зрабіць для высвятлення сітуацыі. У Аблсельгасхарчы чамусьці ўсё гэта палічылі за лішняе.

Падкрэслім, што зусім не лішнім палічылі ў краіне пры правядзенні перарэгістрацыі такі парадак, калі таму ці іншаму прэтэндэнту на «званне» ліквідатара, у якога не хапала даведак у поўным аб'ёме, дасылаліся пісьмы і тлумачэнні наконт таго, што з дакументаў яшчэ трэба прадставіць. У нашым жа выпадку камісія Аблсельгасхарчу ісці гэтым шляхам не збіралася.

Усе пісьмы, якія той жа П. Кузьмін, намеснік загадчыка аддзела сацзабеспячэння Мінскага аблвыканкома Я. Папко і іншыя службовыя асобы пісалі з гэтай нагоды адзін аднаму, з-за адсутнасці месца каменціраваць не будзем. Аднак сутнасць канфлікту вымагае прывесці хоць бы частку пісьма, падпісанага першым намеснікам старшыні Аблсельгасхарчу Л. Русаком і накіраванага ў аддзел сацзабеспячэння Мінскага аблвыканкома, дзе тлумачыцца, чаму раней прынятае рашэнне аб выдачы пасведчання Г. Каваленка было неабгрунтаваным:

«Ранейшае рашэнне тлумачыцца тым, што ў камісіі на дзень разгляду дакументаў не было поўнага аб'ёму рэгламентуючых заканадаўчых актаў... і тым, што дадзеная даведка (якую прадставіла Г. Каваленка. — Рэд.) узгоднена са старшынёй райвыканкома тав. Пракопавым, дзе ўказвалася, што яна прымала ўдзел у ліквідацыі аварыі на ЧАЭС (?! — Рэд.)»

Проста шэдэўр эпісталярнага жанру, інакш не скажаш! А практычна — падтасоўка фактаў. Спадар Пракопаў на той час працаваў не старшынёй райвыканкома, а старшынёй Брагінскага райсавета (вось з якой «дакладнасцю» рыхтуюцца важныя дакументы!). Сцвярджэнне аб адсутнасці рэгламентуючых дакументаў да Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» — таксама, мякка кажучы, няпраўда, бо гэты закон у красавіку 1992 года «працаваў» ужо амаль 14 месяцаў. А што датычыць «удзелу ў ліквідацыі аварыі на ЧАЭС»... Няўжо Г. Каваленка напісала, што тушыла, скажам, пажар на рэактары атамнай станцыі? Навошта гэтая хлусня?

На самай справе ў дакументах Ганны Мікалаеўны простай мовай напісана, што ў перыяд аварыі на ЧАЭС яна працавала страхавым агентам па абслугоўванню грамадзян у вёсках Астраглядаўскага сельсавета, якія адносіліся да зоны эвакуацыі, зон першачарговага і наступнага адсялення. Амаль 10 дзён у тыя страшныя дні, яшчэ не ведаючы аб небяспецы, яна дзе на машыне, а дзе і пехатой дабіралася па забруджаных ядзерным пылам дарогах з вёскі ў вёску. Заключала дагаворы на страхаванне жывёлы, транспарту, пабудоў — абмярала ўжо нашпігаваныя цэзіем і стронцыем дамы.

Напэўна ж, зрабіла ва ўмовах радыяцыі ніяк не менш, чым тая ж дзесяцікласніца Ірына, пра якую гаварылася ў пачатку публікацыі. Але якая процілеглая трактоўка з боку знаўцаў заканадаўства ў адносінах да кожнай з гэтых дзвюх асоб!

Кніга рэкордаў Гінеса шмат страціла з-за таго, што не змясціла на сваіх старонках і наш Закон аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў. Гэта, напэўна, самы груваcткі і цяжкі для ўспрымання закон у свеце. Не сустракаў яшчэ ніводнага чарнобыльца, які да канца асіліў бы кнігу ў 135 (!) старонак з тэкстам самога заканадаўчага акта, з рознымі дапаўненнямі, тлумачэннямі і рэкамендацыямі.

Усе яго супярэчнасці, недапрацоўкі, нестыкоўкі паміж артыкуламі колькі гадоў не могуць растлумачыць нават спецыялісты. Сапраўды, што скажаш мясцоваму бульдазерысту, які тры месяцы зграбаў радыеактыўны грунт у зоне эвакуацыі, але, страціўшы здароўе, права на пасведчанне ліквідатара не мае? Затое чыноўнікі (начальнікі), завітаўшы на дзень-два, скажам, на Брагіншчыну і адзначыўшы камандзіровачнае пасведчанне, атрымалі статус «сапраўднага» ліквідатара. І, між іншым, паспяхова прайшлі перарэгістрацыю. Усё па закону. Вось як «напрацавалі» апаратчыкі, якія трапілі ў дэпутаты былога Вярхоўнага Савета і ведалі, што рабілі, бо прымалі гэты закон у многім «пад сябе».

Таму практыкі на месцах налаўчыліся карыстацца так званымі падзаконнымі актамі (чытай — тымі ж тлумачэннямі і трактоўкамі, не ўнесенымі Вярхоўным Саветам законным парадкам у тэкст самога закона). Вось адно такое пісьмо, выдадзенае былым Дзяржкамчарнобылем у жніўні 1991 года. У ім, у прыватнасці, гаворыцца, што да ліквідатараў аднесены асобы, якія ў 1986 годзе пражывалі ў зоне эвакуацыі і прымалі ўдзел у работах, звязаных з перасяленнем грамадзян, у правядзенні вясенне-палявых работ, вывазцы жывёлы і доглядзе за ёй і г.д.

Кіруецца гэтым дакументам у сваёй рабоце і Пётр Трыфанавіч Кузьмін.

— Увогуле, гэтае пісьмо даволі слабенькае, — кажа ён. — Чаму ў ім нічога не гаворыцца пра летнія палявыя работы? Што, летам 1986 года на палях ужо не было радыенуклідаў? Запісалі б у дакуменце: «... і іншых работ», тады можна было б вырашаць «пагранічныя» пытанні пры аднясенні тых ці іншых асоб да ліквідатараў. Праўда, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях (МНС) і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС нам сказалі: дакумент «трэба разумець правільна» —выдаваць пасведчанні і за час летніх палявых работ у 1986 годзе. Вось так: па закону і нельга, а мы самі вырашаем і дакументы выдаём. Аднак тая ж Г. Каваленка, зноў жа, пад статус ліквідатара не падпадае — не той у яе быў характар работы, які патрабуецца ў тлумачэнні да закона.

Што атрымліваецца? Афіцыйнае пісьмо «падправіла» закон, потым «вусна» карэкціруецца і сам падзаконны акт. Куды мы зойдзем? Тут і тояцца магчымасці для «гульні» чарнобыльцамі-«пешкамі», ствараюцца падставы для «асабістага» ўспрымання і вырашэння канфліктных сітуацый.

Сённяшняя атмасфера пагардлівых, раўнадушных адносінаў да «радавых» чарнобыльцаў, ліквідатараў праяўляецца і ў тых перашкодах, якія і там, і тут з'явіліся перад людзьмі ў час перарэгістрацыі пасведчанняў. Таму і цягнулася гэта мерапрыемства не месяц, як раней было задумана, а цэлыя тры, ды і сёння практычна яшчэ не завершана: тысячы людзей у рэспубліцы і цяпер шукаюць розныя пацвярджальныя даведкі, якія быццам бы павінны захоўвацца ў тых ці іншых архівах. Вось тут аўтар цалкам згодзен са сваім апанентам, калі П. Кузьмін заяўляе:

— Па лініі нашага камітэта такіх ліквідатараў засталося прыкладна паўтары сотні. Цяжка глядзець, як даярак і механізатараў ганяюць па розных кутках Беларусі — здабываць разнастайныя ведамасці, дарожныя лісты і іншыя даведкі, якія захоўваюцца практычна толькі два-тры гады. Ліквідатары з начальнікаў і ў першы раз змаглі «зрабіць» сабе пасведчанні, паспяхова прайшлі сіта перарэгістрацыі і цяпер. А хто застаўся пакараны? Ды ўсё тыя ж радавыя, неабароненыя ліквідатары.

Гэта значыць, усё тыя ж «пешкі», якія, у адрозненне ад чыноўных «фігур», у нас заўсёды церпяць. У МНС, якое курыруе ход перарэгістрацыі, наракаюць: маўляў, своечасова разаслалі па ўсіх арганізацыях, трэстах, выканкомах пісьмы з просьбамі аб усямерным садзейнічанні ліквідатарам у пошуках дакументаў. Але шмат дзе сядзяць усё тыя ж бюракратычныя фігуры — якая на іх управа? Толькі «вышэйстаячы» вокрык ці суд.

Начальніцкі гнеў, удар кулаком па стале — няўжо гэта на сённяшні дзень сапраўды самы надзейны ў нас спосаб вырашыць «невырашальную» праблему? У нешта падобнае, відаць, паверыў і інвалід-чарнобылец Р. Міхаленка: у чарговы раз праявіўшы характар, ён, каб канчаткова «развязаць» чарнобыльскія праблемы і свае, і жонкі, задумаў, па яго словах, дастукацца хоць бы да Адміністрацыі Прэзідэнта. Іншага выйсця ён не бачыць.

Няхай яму пашанцуе. Можа, там і знойдзецца хтосьці, хто зможа аб'ектыўна, непрадузята разабрацца ў калізіях з блытаным заканадаўствам і не менш блытанымі яго трактоўкамі. Камусьці ж трэба адказаць на пытанне, якое ставіць Г. Каваленка: «Дык хто ж я цяпер такая: ліквідатар ці не? Які сапраўдны мой статус, якія ў мяне правы? А можа, я тут наогул бяспраўная?»

Падобныя пытанні, як мы бачым, ужо не з разраду асабістых, а з разраду прынцыповых. Ці можна даць на іх вычарпальны адказ — пры сённяшнім стане маралі і законнасці ў грамадстве і дзяржаве? Што можна адказаць, напрыклад, гамяльчаніну Мікалаю Вазнюку, які ставіць пытанне рубам: «Чаму не дзейнічае артыкул 45 Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», які датычыць змяншэння ўзросту на 5 гадоў для ліквідатараў 1986 года (у 30-кіламетровай зоне) пры выхадзе на пенсію?» Відаць, толькі тое, што ў нас шмат такіх «непрацуючых» і артыкулаў, і законаў у цэлым. Каму гэта выгадна, для каго зручна? Вядома ж, для вялікіх і малых мясцовых начальнікаў з іх «магчымасцямі». Толькі не для «пешак».

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

*ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ*

## Юрый МАЛУМАЎ:

# «Я буду чалавекам Прэзідэнта ў парламенце. Не разумейце гэта толькі аднабока»

**З нядаўна абраным намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыем МАЛУМАВЫМ размаўляе карэспандэнт «Звязды» Валер КАЛІНОЎСКІ.**



***Інтэрв'ю з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыем Малумавым удалося зрабіць не ў зусім звычайным месцы — у салоне самалёта «Люфтганзы» падчас вяртання ў Мінск беларускай парламенцкай дэлегацыі са Страсбурга, з сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, дзе дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі на чале з Ю. Малумавым былі ў якасці спецыяльна запрошаных. Таму натуральна, што першае пытанне датычылася вынікаў місіі ў Страсбургу і перспектыў уступлення Беларусі ў Савет Еўропы.***

### БЕЛАРУСІ ТРЭБА ЗРАБІЦЬ УСЁ, КАБ ВОСЕННЮ СТАЦЬ ЧЛЕНАМ САВЕТА ЕЎРОПЫ

**— Юрый Георгіевіч, якія вашы ўражанні ад Страсбурга, Савета Еўропы, якая ваша думка наконт нашага далучэння да Савета Еўропы, выпрацаваная ў выніку вашых сустрэч у Страсбургу?**

— Мы працягвалі тое, што пачалі ў 1992 годзе, — працэс інтэграцыі ў Савет Еўропы. Мне было дастаткова складана, бо я ўпершыню прымаў удзел у такім форуме, вялікую дапамогу мне аказалі П. Краўчанка і М. Грыб. Пётр Кузьміч увогуле стаяў ля вытокаў нашых адносінаў з Саветам Еўропы, а апошнія два гады працаваў менавіта Мечаслаў Іванавіч. На жаль, дзве прычыны перашкаджалі развіццю гэтых адносінаў. Па-першае, была слабая інтэнсіўнасць гэтай працы: можна было тлумачыць сітуацыю, здымаць пытанні і паскараць нашу інтэграцыю так, што маглі б у гэты раз прымаць не Расію, а нас. Другая прычына — складанасці з заканадаўчай уладай у нашай краіне, якія ў нас былі паўгода. Гэта і адклала нашу заяўку. Вельмі прыемна было пераканацца на працягу ўсіх сустрэч, якія мы правялі (а мы сустрэліся з усімі людзьмі, якія арганізоўваюць працэс уступлення новых членаў: кіраўнікамі трох важнейшых камітэтаў, старым і новым прэзідэнтам асамблеі), пераканацца ў тым, што няма асаблівых складанасцей для нашага ўступлення. Яны могуць у большай ступені быць з нашага боку. Пытанне ў тым, як мы зможам арганізаваць працу са службамі Савета Еўропы, камітэтамі. І па-другое, пытанне ўзносу, якое мяне хвалюе. Пакуль канкрэтную суму ніхто не называе, але гэта, па нашых разліках, каля 1,5 мільёна долараў. Гэта не такая ўжо вялікая праблема для Беларусі, аднак і не надта лёгкая: у нас вельмі шмат іншых патрэб. З другога боку, вядома, у Савет Еўропы ўступаць трэба, гэта першая ступенька па шляху да інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць. Цяпер у нашым заканадаўстве мала гарантый для заходніх інвестараў, і калі мы будзем у Савеце Еўропы, гэтая праблема — праблема гарантый — працэнтаў на дваццаць будзе вырашана. У інвестараў з'яўляецца магчымасць хай не напрамую, але ўздзейнічаць на нас, дабівацца большых гарантый... Таму лічу, што мы зможам зрабіць, дзякуючы членству ў СЕ, зрухі ў эканоміцы. Плюс далейшая інтэграцыя ў еўрапейскі працэс, развіццё адносінаў на міждзяржаўным узроўні.

Я лічу, што Беларусі трэба зрабіць усё, каб восенню стаць членам Савета Еўропы.

**— Акрамя эканомікі, чым яшчэ будзе карысны Савет Еўропы для нашай краіны, для нашых грамадзян?**

— Разумею, што вы хочаце пачуць аб правах чалавека... Я на першы план паставіў пытанні эканомікі, відаць, як рэаліст, бо я лічу, што спачатку трэба вырашаць эканамічныя пытанні. Натуральна, што правы чалавека, свабоды, агульначалавечыя каштоўнасці з уступленнем у Савет Еўропы для нас атрымаюць іншае значэнне. Хаця ў гэтым плане мне спадабаўся выраз І. Хакамады, якая сказала, што калі ў Расіі дзяржава не хоча выконваць свае законы, то ўжо выконваць рэкамендацыі Савета Еўропы ёй будзе ўдвайне цяжка... Я разумею, што не настолькі гэтыя праблемы ў Беларусі глыбокія і хваравітыя. Я не гатовы адказаць, ці будзе ў нас права індывідуальнага звароту ў Еўрапейскі суд па правах чалавека, ці як туркі, нашы грамадзяне не будуць мець такога права. Гэта ўжо справа за парламентам, за Саветам Еўропы. Я разумею, што Савет Еўропы — арганізацыя праваахоўная, гуманітарная, але ж я за ёй бачу іншыя, як мне здаецца, найбольш важныя для рэспублікі праблемы...

**— Якія пажаданні ў адрас Беларусі вы пачулі ў працэсе перагавораў?**

— Ведаеце, уплыў на ўсіх зрабіла тое, што адначасова ў Страсбургу знаходзіліся і прадстаўнікі выканаўчай улады (віцэ-прэм'ер У. Русакевіч) і парламенцкая дэлегацыя. Так, многа было звону ў Страсбургу да таго, як парламент Беларусі пачаў працаваць, з нагоды супрацьстаяння заканадаўчай і выканаўчай улады ў нашай краіне, але гэты супольны візіт прадстаўнікоў дзвюх галін улады такія пытанні зняў. Нейкіх жорсткіх патрабаванняў да нас не прад'яўлялася. Спадар Янсан, які ўжо чатыры разы быў у нас у рэспубліцы, пацвердзіў яшчэ раз тое, што міжнародныя назіральнікі прызналі выбары ў Беларусі дэмакратычнымі, адпавядаючымі закону. Былі адзначаны толькі дробныя парушэнні, якія па словах Янсана, не паўплываюць на адносіны да Беларусі. А калі ў мінулую пятніцу абмяркоўвалася пытанне па эканамічнай сітуацыі ў Расіі, Беларусі і Украіне, то прадстаўнік Польшчы выказаў у адрас Беларусі вусныя нараканні наконт таго, што марудна ідзе прыватызацыя. Ні з чыіх вуснаў мы не пачулі іншых патрабаванняў. Так, прыедуць юрыдычныя эксперты, вывучаць наша заканадаўства, выкажуць свае заўвагі... Мы ўзялі ўсе дакументы, што мелі адносіны да ўступлення Украіны і Расіі, аналізуем тыя заўвагі, што рабіліся, і мы будзем старацца, каб у гэты перыяд аднівеліраваць наша заканадаўства і ўхіліць свае недахопы. Пытанні, зразумела, узнікнуць у працэсе работы. Напрыклад, прымаючы Расію ў Савет Еўропы дэпутаты Парламенцкай асамблеі ўнеслі 36 паправак... У нас іх будзе меней, але яны будуць розныя і па тэматыцы, і па глыбіні. Але пакуль іншых пажаданняў не было, акрамя аднаго: яны з задавальненнем успрынялі тое, што мы пацвярджаем жаданне ўступіць, абгаворваліся пытанні, як будзе праводзіцца гэта работа, і ўсе нацэлены на самую канкрэтную працу па прыёму Беларусі ў Савет Еўропы.

### ПРЭЗІДЭНТ ЗАЗНАЧАЎ, ШТО ЁН НЕ СУПРАЦЬ ВІЦЭ-СПІКЕРСТВА Ю. МАЛУМАВА

**— Юрый Георгіевіч, раней вы былі проста чыноўнікам Адміністрацыі Прэзідэнта, а цяпер вы — публічны палітык. Таму нам цікава ведаць вашы погляды, намеры, вашы ацэнкі эканамічнага і палітычнага жыцця. Для пачатку я хацеў бы спытаць, ці было для вас нечаканым тое, што менавіта вы былі вылучаны на пасаду віцэ-спікера ад фракцыі «Згода»?**

— Не буду ўтойваць, гэта не было для мяне нечаканым. Размовы між прадстаўнікамі фракцый, якія толькі нараджаліся, пачаліся яшчэ да новага года, і падчас іх маё прозвішча ўпаміналася, я аб гэтым ведаў. А ў апошнія 3-4 дні перад абраннем гэтае пытанне вырашалася канкрэтна.

**— Хто асабіста вас прапаноўваў?**

— Як і патрабуецца, Старшыня Вярхоўнага Савета.

**— Так па Канстытуцыі, а на практыцы, падчас нарады ў фракцыі?**

— Шчыра кажучы, я нават не памятаю, хто назваў маё прозвішча на нарадзе фракцыі. Мы абмяркоўвалі на фракцыі ўсе пытанні — да кандыдатур на пасады сакратароў камісій, улічвалася жаданне кожнага з дэпутатаў, які хацеў уступіць у нашу фракцыю і выказваў меркаванне, дзе б ён хацеў працаваць. Натуральна, што абмяркоўваліся ўсе магчымыя кандыдатуры на пасады ў кіраўніцтве Вярхоўнага Савета.

**— Вы выказвалі сваё жаданне быць віцэ-спікерам?**

— Я не браў самаадвод.

**— Юрый Георгіевіч, вы працавалі ў прэзідэнцкай адміністрацыі, скажыце, як паставіўся А. Лукашэнка да таго, што вы сыходзіце ад яго?**

— У нас яшчэ не было размовы з Прэзідэнтам пасля майго абрання. Паўплывала на тое мая камандзіроўка ў Страсбург, яго сустрэчы з Назарбаевым і саміт у Маскве. Таму мы яшчэ не сустракаліся і пагаварыць не ўдалося. Але да таго, як яму стала вядома, што мая кандыдатура разглядаецца на гэтую пасаду, у нас размова была, і Прэзідэнт сказаў, што калі гэта атрымаецца, дык гэта нядрэнна, ён не супраць.

**— Скажыце калі ласка, ці правільна лічаць фракцыю «Згода» прэзідэнцкай?**

— Я лічу, што платформа гэтай фракцыі адпавядае поглядам Прэзідэнта на сітуацыю ў рэспубліцы, на шляхі выхаду з крызісу. Па свайму саставу фракцыя «Згода» складаецца з беспартыйных дэпутатаў, людзей самых розных прафесій. Вы, напэўна, звярнулі ўвагу, што пасады старшынь сямі камісій дасталіся людзям з гэтай фракцыі. У нас вельмі шмат гаспадарнікаў, ёсць урачы, настаўнікі, работнікі праваахоўных органаў. Гэта фракцыя прафесіяналаў, спецыялістаў. Так, асноўны пастулат нашай фракцыі — гэта кансалідацыя ўсіх галін нашай улады дзеля дасягнення адной мэты — каб наша рэспубліка квітнела, каб народ жыў лепей. І адзін з найбольшых недахопаў быў у тым, што паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі не было згоды. Таму наша мэта — гэта кансалідацыя ўсіх галін улады. У гэтым плане яна — прапрэзідэнцкая фракцыя. У яе ўваходзяць людзі з блізкага акружэння Прэзідэнта. Але звярніце ўвагу, што не ўсе. Наколькі я ведаю, В. Кучынскі быў у іншай фракцыі... Акрамя таго, у сацыял-дэмакратаў ёсць шэсць чалавек са Службы кантролю Прэзідэнта. Але ж вы яе не называеце прапрэзідэнцкай?.. Што датычыць увогуле нашай фракцыі, я думаю, што на першым этапе нам было цяжкавата. Фракцыі камуністаў і аграрыяў утварыліся ўжо на базе партый і раней за нас. Мы ўтварыліся ў апошнія дні снежня. Тым больш нам было складана, бо ў нас шмат вядомых у палітыцы людзей, што ўносіла пэўныя цяжкасці, асабліва ў кадравыя пытанні. Асноўнае пытанне мы вырашылі — у камісіях на пастаяннай аснове будуць працаваць усе, хто пажадаў, — у тым ліку старшынямі, намеснікамі, сакратарамі. А ўся праца ў парламенце, як гэта і павінна быць, будзе сканцэнтравана ў асноўным там, у камісіях. Пленарныя пасяджэнні сесіі — гэта вянец работы, уся чарнавая праца будзе весціся ў камісіях. І тое, што там нашы людзі ёсць, — гэта нармальна.

**— Заканчваючы праблему фракцыі «Згода», хацелася б удакладніць: вы цяпер уваходзіце ў яе ці выйшлі?**

— Так, уваходжу. Аднак я не імкнуся ў кіраўніцтва фракцыі, мне трэба займацца канкрэтнай працай па арганізацыі работы парламента. Праблем мора.

**— Якой вы бачыце гэтую новую для вас працу, свае функцыі?**

— Канчатковае размеркаванне абавязкаў намеснікаў — гэта справа Прэзідыума ВС. Мы пакуль што папярэдне падзялілі функцыі паміж сабой. Сямён Георгіевіч Шарэцкі тут кіраваўся адным крытэрыем — прафесіянальнай падрыхтаванасцю кожнага з намеснікаў. Мы сапраўды аказаліся розныя, розных спецыяльнасцей і поглядаў. Эканамічныя камісіі даручана курыраваць Г. Карпенку, сацыяльныя, міжнародныя праблемы — В. Новікаву, а на мне ляжаць юрыдычныя пытанні: камісіі па заканадаўству, па нацыянальнай бяспецы і барацьбе са злачыннасцю, рэгламенту і дзяржаўнаму будаўніцтву і Інстытут дзяржаўнага будаўніцтва пры ВС. Вось гэта тое кола пытанняў, якое пакуль што вызначана для мяне. Зразумела, што функцыі будуць значна шырэйшымі: згодна з законам, старшыня мае права свае паўнамоцтвы перадаваць намеснікам. Магчыма, будзе яшчэ нейкая канкрэтызацыя, бо праблемы ўзнікаюць кожны дзень.

Я бачу сваю задачу менавіта ў арганізацыі працы камісій, якія я буду курыраваць. А члены прэзідыума, якія з'яўляюцца кіраўнікамі фракцый, будуць весці паралельную працу ў фракцыях. Я лічу таксама вялікім набыткам нашага парламента, што пры мажарытарнай сістэме выбараў у нас з'явіліся партыйныя фракцыі, якія паказалі сваю працаздольнасць. Праўда, тут ёсць спробы перагнуць палку і знізіць ролю камісій. Я буду жорсткім праціўнікам гэтага. Па Канстытуцыі, у нас камісіі — гэта асноўнае структурнае падраздзяленне парламента, і менавіта яны закліканы ажыццяўляць заканадаўчую работу, а фракцыі маюць права дарадчага голасу, выпрацоўкі пазіцый і вывучэння праблем. Абавязкова патрэбна, каб пры арганізацыі працы парламента быў выдзелены час для нарад у фракцыях. Такім чынам, мая праца цяпер будзе дастаткова непрыкметная, руцінная, магчыма нецікавая ні для СМІ, ні для выбаршчыкаў — гэта чыста арганізатарская праца, як на вытворчасці арганізацыя тэхналагічнага працэсу — даруйце за грубае параўнанне.

**— Я хацеў бы вярнуцца да нашай з вамі размовы перад галасаваннем у ВС, калі вы сказалі, што будзеце чалавекам Прэзідэнта ў парламенце.**

— Я яшчэ раз скажу, што я ніколі ў жыцці не здраджваў людзям, з якімі мяне звёў лёс і з якімі я разам працаваў. Так, я чалавек з блізкага акружэння Прэзідэнта. І калі падабаецца журналістам — называйце мяне прадстаўніком Прэзідэнта ў парламенце. Хаця такая пасада ў прэзідэнцкай адміністрацыі ёсць і яе будзе афіцыйна займаць іншы чалавек. Я па свайму духу падзяляю пазіцыю Прэзідэнта, я бачыў зблізку ўсе яго спробы рабіць лепей. Дзе-калі гэта не атрымлівалася, дзе-калі былі памылкі. Але я бачыў, што ён хоча зрабіць лепей. Для мяне гэтага дастаткова, каб працягваць быць побач з ім. Я падтрымліваю тую палітыку, якую ён праводзіць на гэты час. Мне яна здаецца правільнай. І ў гэтым плане я буду чалавекам Прэзідэнта там. Не разумейце гэта толькі так аднабока, як белае і чорнае. Нядаўна трапілася на вочы цытата са Стэндаля, калі ён казаў пра Напалеона і прадстаўнічую ўладу ў яго час, зазначаючы, што любая кіраўнічая асоба можна абапірацца толькі на прадстаўнічую ўладу, якая аказвае яму супраціўленне. Іначай ні прадстаўнічая ўлада не будзе нічога сабой уяўляць, ні кіраўнік не атрымае падтрымкі. Патрэбна пэўнае процідзеянне, але ж не на шкоду агульнай справе. Тыя, хто ведае сітуацыю ў прэзідэнцкай адміністрацыі, скажуць, што я быў адным з тых, хто даволі часта выказваў пункт погляду, адрозны ад прэзідэнцкага. Мне дазвалялася пераконваць і адстойваць свой пункт гледжання. Тое самае будзе і ў парламенце, толькі ўжо з другога ўзроўню, не з пазіцыі чалавека з апарату, а з пазіцыі прадстаўніка другой галіны ўлады. Я буду весці перамовы з Прэзідэнтам, і калі я буду бачыць, што з боку выканаўчай улады ці з боку кіраўніка дзяржавы нешта не так, як трэба, я буду выкарыстоўваць магчымасць доступу да Прэзідэнта, каб пераконваць яго, адстойваць свой пункт гледжання. Але я яшчэ раз падкрэсліваю, што працэнтаў на 80—90 мае думкі супадаюць з прэзідэнцкімі.

**— У гэтай сувязі вы мяркуеце, што вам асабіста ўдасца згладжваць супярэчнасці паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, якія ў нас раней былі даволі вострымі?**

— Я хачу вам сказаць, што і Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шарэцкі настроены на канструктыўную працу з кіраўніком дзяржавы. Натуральна, што мая прысутнасць побач з ім будзе дапамагаць яму ў гэтым. Сітуацыя, зразумела, можа быць рознай, але тое, што цяпер паяўляецца рэальная магчымасць весці размовы без пасрэднікаў і вырашаць канфлікты да таго, як яны ўзнікнуць, — я думаю, што ніхто гэтага не будзе адмаўляць.

### «Я БУДУ СПРАБАВАЦЬ УНЕСЦІ ЗМЕНЫ Ў КАНСТЫТУЦЫЮ, ЯКІЯ ЛІКВІДУЮЦЬ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД»

**— Юрый Георгіевіч, паколькі вы курыруеце ў Вярхоўным Савеце прававыя пытанні, цікава было б даведацца, якое ваша стаўленне па адной канкрэтнай праблеме: у апошнім дакладзе Прэзідэнта на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета прагучала, на мой погляд, небяспечная прапанова наконт Канстытуцыйнага суда і наконт неабходнасці змяненняў у Канстытуцыі. Якое ваша бачанне гэтых праблем?**

— Я думаю, не трэба перабольшваць небяспечнасць гэтай сітуацыі ці яе актуальнасць для краіны. Нічога страшнага тут не адбылося і не адбываецца. Тое, што ў Канстытуцыі ёсць нормы, якія патрабуюць, як мінімум, тлумачэння (і мы гэтым абавязкова зоймемся) — гэта адназначна. Тое, што трэба некаторыя нормы ўдакладняць, магчыма, і шляхам рэферэндуму — гэта таксама не выклікае сумнення. Пытанне толькі ў часе: калі? У нас цяпер дастаткова шмат неадкладных праблем: той жа бюджэт, які трэба зрабіць, шмат законапраектаў, неабходнасць кадыфіцыраваць наша заканадаўства. Нам адназначна трэба ўнесці ў Канстытуцыю змяненні, прадыктаваныя майскім рэферэндумам. Што датычыць Канстытуцыйнага суда, я першапачаткова лічыў, яшчэ калі яго ўнеслі ў Канстытуцыю, што гэты інстытут абсалютна непатрэбна ў сістэме падзелу ўлад. Гэта мая асабістая думка, як юрыста. Тры галіны ўлады ёсць: а КС паводле Канстытуцыі не мае ніякіх адносін ні да адной з іх, гэта орган канстытуцыйнага нагляду. Формула яго фарміравання таксама жадае жадаць лепшага: не прамым волевыяўленнем народа, а выбранне парламентам, гэтак жа, як быў абраны на сваю пасаду і я.

*Заканчэнне гутаркі ў наступным нумары.*

ДЫСКУСІЙНАЯ ТРЫБУНА

## Зянон ПАЗЬНЯК:

# «ХТО ЗМАГАЕЦЦА, ТОЙ ПЕРАМАГАЕ»



*Адной з вялікіх нечаканасцей мінулага года можна лічыць вынікі ўдзелу ў парламенцкіх выбарах Беларускага народнага фронту — як вядома, ніводны вылучэнец гэтай арганізацыі так і не стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета. Ці азначае гэта акалічнасць знікненне Народнага фронту з палітычнага гарызонта Беларусі? У якасці аднаго з варыянтаў адказу прапануецца гутарка нашага карэспандэнта са старшынёй БНФ Зянонам ПАЗЬНЯКОМ.*

**— ЗЯНОН СТАНІСЛАВАВІЧ, тое, што адбылося на парламенцкіх выбарах з БНФ — гэта выпадковасць ці заканамернасць?**

— Гэта заканамернасць, да якой мы былі падрыхтаваны. На паўторныя восеньскія выбары 1995 г. мы пайшлі пасля дыскусіі: ці ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі ва ўмовах беззаконнасці і разбэшчанай дэзінфармацыі з боку ўладаў у дачыненні да БНФ, ці, можа, ігнараваць заведама немагчымыя для нас выбары. Улічваючы пагрозу дыктатуры, якой запахла ў паветры, вырашылі ўдзельнічаць у выбарах і агітаваць насельніцтва, нават калі б выбары адбываліся пад кулямётамі.

У сітуацыі, якая склалася, неабходна было выбраць новы парламент, каб стварыць канстытуцыйную процівагу дыктатарскім памкненням выканаўчай улады. Калі б фронт не агітаваў і не ўдзельнічаў у выбарах, то значная частка фронтаўскага электарату не пайшла б галасаваць і выбары маглі б не адбыцца. Гэта, не сумняваюся, прывяло б нашае грамадства да цяжкіх наступстваў. Пакуль што фронт прадухіліў іх, коштам свайго паражэння, падставіўшы сябе ў гэтай сітуацыі пад заведамы прапагандысцкі ўдар. Антыбеларуская прапаганда і людзі, якія не разбіраюцца, хіхікаюць, маўляў, вось глядзіце, «прайграўшы», яны нават выбранне парламента ставяць сабе ў заслугу. Няма сэнсу рэагаваць на ёрніцтва. Намі было зроблена ўсё, каб адбыліся выбары, быў створаны парламент. Ведаем, што ад нас гэта таксама залежала.

Кожная з палітычных сіл і арганізацый, што ўдзельнічала ў выбарах, планавала сваю партыйную стратэгію. Народны фронт, аднак, планаваў яшчэ і агульную стратэгію выбараў, зыходзячы з дзяржаўніцкіх нацыянальных інтарэсаў. Адсюль і тактыка (зняцце сваіх кандыдатаў, дзяржаўніцкая агульнанацыянальная платформа, падтрымка саюзнікаў і г. д.). Гэтая тактыка дала пэўны плён. Аднак сам фронт быў поўнасцю блакіраваны. Улады пераўзышлі саміх сябе. Ніводнага прадстаўніка БНФ няма ў новым парламенце. Якая бліскучая магутная перамога сілы ўлады! Якое сакрушальнае паражэнне фронту! — скажаце вы. — Ці не так?

Аднак нешта мала радасці бачу я ў «моцнай улады». Нейкая збянтэжанасць. Ці не перагнулі вы, спадары, палку, ці не перайгралі саміх сябе? І як бы вынікі іхняй «сакрушальнай перамогі» не пайшлі на карысць фронту.

Дарэчы, мяне радуе, што ў фронце даволі разважліва аднесліся да вынікаў выбараў. Яны не сталі вялікай нечаканасцю. Няма паражэнцкіх настрояў, а ёсць ахвота добра працаваць.

**— І ўсё-такі: хто вінаваты? Прэзідэнт? «Цёмны» народ? А, магчыма, сам Народны фронт?**

— Выбары не тая з'ява, дзе шукаюць вінаватых. Мы цвяроза бачылі сітуацыю і ведалі, на што ішлі. (І пойдзем яшчэ не раз. Будаўніцтва незалежнай дзяржавы і нацыянальнае адраджэнне — гэта пастаянная праца на доўгія гады. Таму мы не шукаем вінаватых, а аналізуем свае дзеянні.

Пытанне «хто вінаваты» — адвечная пазіцыя савецкага чалавека, які валодае асаблівай псіхалогіяй. Ну, а калі і ў фронце пачнуць шукаць вінаватага, то знайсці яго працай простага. Як кажуць таварышы-камуністы: «во всем виноват Позняк».

**— Наколькі апраўдала сябе стаўка Народнага фронту на культурнае адраджэнне?**

— Мы не робім «ставак». Стаўкі робяцца дзеля дасягнення нейкай мэты. Культурна-нацыянальнае адраджэнне Беларусі ёсць сама мэта БНФ. Яе неабходна ажыццяўляць, нягледзячы ні на якія ўмовы і перашкоды. Адраджэнне ў шырокім сэнсе (а гэтак называецца наш рух) заключае ў сабе галоўныя каштоўнасці нацыі, якія забяспечваюць яе гістарычную будучыню, цывілізаванасць і паўнацэннае чалавечае існаванне. Тут і нацыянальная дзяржава, і суверэнітэт, і дзяржаўнасць беларускай мовы, і эканоміка, і адукацыя, і міжнародная палітыка, і прававое заканадаўчае ўладкаванне грамадства, правы і развіццё асобы. Адраджэнне — гэта палітыка будаўніцтва, палітыка стварэння.

Шмат чаго было тут дасягнута Народным фронтам, акрамя ўлады ў дзяржаве. Цяпер тое, пад што быў закладзены грунт, як і раней, разбураецца гэтай уладай, да якой мы, на шчасце, не маем ніякіх дачыненняў. А калі б і мелі, то толькі як апазіцыя гэтаму развалу і нацыянальнаму вынішчэнню.

**— Усе гады свайго існавання БНФ атаясамліваўся з нацыянальнай ідэяй. Але ў чым яна? Улічваючы падзеі мінулага года, ці мае яна права на існаванне на Беларусі?**

— Гісторыя — гэта час. Калі нейкі ўсталяваны грамадскі арганізм ці ўсталяваная грамадская сістэма не перажыла (не сфарміравала, не стварыла) нейкіх неабходных якасцей у адпаведным часе, то яна альбо вернецца да іх, каб стварыць паскораным шляхам, альбо загіне, не адбудзецца як з'ява. Вяртанне часам нагадвае сізіфаву працу, але іншага не дадзена.

Калі коратка, то нацыянальная ідэя — гэта кансалідацыя народа на аснове любові да сваёй зямлі, гісторыі і культуры, да саміх сябе і ўсведамленне ў гэтым агульнасці жыццёвых інтарэсаў. Чалавек, які ўсведамляе нацыянальную ідэю (нацыянальна свядомы), звязвае свой поспех і сваё шчасце з поспехам і шчасцем свайго народа. Нацыянальная ідэя здольна кансалідаваць усіх, незалежна ад палітычнай арыентацыі. Дарэчы, і камуністаў, і антыкамуністаў. Напрыклад, і Бразаўскас, і Ландсбергіс гавораць на адной мове. На Беларусі ж, аднак, камуністы служаць не нацыянальнай ідэі. Адсюль іх антыбеларускасць, варожасць да суверэнітэту і г. д.

Камуністы ва ўладзе ў еўрапейскіх краінах не ўяўляюць такой небяспекі для існавання дзяржавы і нацыі, як на Беларусі, дзе яны альбо іхняя наменклатура ўладу захавалі.

Павінен сказаць, што ў гэтым якраз і ёсць трагізм Беларусі. Наша грамадства расколатае не ў адносінах да спосабу грамадскага ўладкавання нацыі (як у Польшчы, Літве, Эстоніі, ва ўсім свеце), а ў адносінах увогуле да нацыянальнага існавання. Адсюль дзікунскія, незразумелыя для цывілізаванага свету рэферэндумы, вар'яцкая дзяржаўная палітыка.

Сучасная Еўропа, яе шматдзяржаўнасць, яе дэмакратыя, сістэма эканамічных і гуманітарных каштоўнасцей гістарычна сфарміраваліся на аснове нацыянальнай ідэі як найбольш кансалідуючай, натуральнай і ўсім зразумелай. Большасць еўрапейскіх краін ужо засвойваюць іншыя каштоўнасці, заснаваныя на нацыянальнай ідэі. Беларусь жа ў поўнай меры не вырашыла яшчэ вызначальных паняццяў: нацыянальная дзяржава, дзяржаўная беларуская мова і нават беларуская нацыянальная свядомасць, без якой немагчымая нацыянальная дзяржава. Бо развіццё іх было прыпынена ў 1918 годзе на самай ранняй стадыі ўтварэння нацыянальнай дзяржавы (БНР). Потым настала акупацыя, падзел народа, квазідзяржаўнасць, прымусовая асіміляцыя і генацыд.

У канцы 80-х гадоў беларускі Сізіф зноў прачнуўся і пацягнуў на гару свой камень. Хто пазбавіць яго ад злога рока? Хто?

Мы ўзяліся за гэтую справу сем гадоў назад, бо зразумелі — пакуль існуе «чудище обло, огромно, стозевно», да таго часу будзе дзейнічаць рок. У гэтым (у барацьбе з варожай імперыяй) сутнасць усёй нашай драматычнай нацыянальнай гісторыі, якая, аднак, сведчыць: хто змагаецца, той урэшце і перамагае.

**— Вы шмат гаварылі пра еўрапеізм Беларусі. Што гэта такое?**

— Беларусь — краіна еўрапейскай культуры і еўрапейскай гісторыі, якая выпрацавала нацыянальную сістэму еўрапейскіх культурных каштоўнасцей у дзяржаве і праве, у рэлігіі і мастацтве, у палітыцы і вайсковай справе, у штодзённым жыцці. Сістэма гэтых каштоўнасцей спраецыравана на чалавечую асобу, на індывідуальнасць, якой аддаецца прыярытэт перад дзяржавай. Асоба паважаецца, дзяржава шануецца. Такі тып дачыненняў замацаваны і ў псіхалогіі людзей. У гэтым (у дачыненнях да асобы і дзяржавы) наша галоўнае адрозненне ад імперскага і аўтарытарнага Усходу.

Адраджэнне нашых нацыянальных еўрапейскіх каштоўнасцей і інтэграцыя, вяртанне ў Еўропу ёсць найбольш натуральны і аптымальны шлях нашага нацыянальнага развіцця.

**— Чым вы, як лідэр адной з буйнейшых партый, ганарыцеся больш за ўсё? І чаго, магчыма, саромеецеся?**

— Ганаруся, калі, згодна з беларускай вайсковай традыцыяй, перамогі ў палітыцы над татальна пераўзыходзячай магутнасцю дасягаюцца вельмі малымі сіламі. Напрыклад, 24—25 жніўня 1991 г. Прыпыненне дзейнасці КПСС—КПБ, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі і інш. І ўвогуле, ганаруся працай і дзейнасцю апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Саромеюся люмпенскіх праяў у нашым грамадстве і ў Народным фронце.

**— Кожная няўдача —падстава, каб задумацца і зрабіць высновы. Якія яны?**

— Калі маюцца на ўвазе выбары, то высновы можна звесці да дзвюх галоўных: патрэбна канкрэтная мэтанакіраваная праца з насельніцтвам і сродкі. Далей — магчымасць распаўсюджваць інфармацыю (газеты, радыё і г. д.), удасканальванне партыйна-рухаўскіх структур і, што вельмі істотна, — прыняцце нармальнага выбарчага закона. Існуючы закон — гэта нейкі параліч. Ён не спрыяе правядзенню выбараў.

**— Зараз БНФ зноў ператварыўся ў пазапарламенцкую апазіцыю. Як разумець такі статус?**

— Паколькі ніводны прадстаўнік БНФ не быў прапушчаны ў беларускі парламент, фронту там няма. А значыць, мы не можам непасрэдна ўплываць на дзейнасць парламента. Зразумела, што не можам несці і ніякай адказнасці за яго палітыку. Сфера палітычнай эфектыўнасці ў нас звузілася. Аднак нашы крытычна-кансалідуючыя, апазіцыйныя магчымасці ў грамадстве пашырыліся і спрасціліся. Мы зможам цяпер больш засяродзіцца якраз на крытычных і кансалідуючых аспектах нашай праграмы. У гэтых умовах падтрымка фронту будзе ўзрастасць. Павялічыцца яго масавасць.

**— Што б вы маглі адказаць тым, хто сцвярджае, што эпоха Народнага фронту незваротна прайшла?**

— Сур'ёзныя людзі такога не кажуць. А што датычыць «тых»... «Тыя» гавораць гэтак ужо сем гадоў. Пагартайце старыя газеты, дзе зафіксаваны супярэчлівыя пісанні ўсіх нашых «флюгераў». Але караван ідзе. Так што пажадаю «тым» з такім жа поспехам адпрацаваць і наступную сямігодку.

**Пытанні задаваў Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# У ДОМЕ ПАВІНЕН БЫЦЬ ГАСПАДАР



*З кіраўніком спраў Прэзідэнта Іванам Ціцянковым гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»*

**— Іван Іванавіч! Прэзідэнт рэспублікі выдаў Указ ад 4 студзеня 1996 года «Аб упарадкаванні выкарыстання будынкаў, збудаванняў і іншых памяшканняў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці». У чым «соль» гэтага ўказа?**

— Сутнасць дакумента ў тым, што дзяржаўная ўласнасць у выглядзе будынкаў і збудаванняў, раскіданая цяпер па немалой колькасці міністэрстваў, нарэшце будзе мець аднаго гаспадара ў асобе Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта, таго адзінага, з каго за гэту ўласнасць можна будзе строга спытаць «па поўнай праграме»: за яе стан, выкарыстанне, рамонт. Так што тыя, хто бачыць ва ўказе Прэзідэнта спробу прыбраць да рук усё, што дрэнна ляжыць, на жаль, памыляюцца. «Цягнуць» аказваецца, часам няма чаго, таму што дзяржаўная ўласнасць, якая значыцца на балансе міністэрстваў, паўстае ў асобных выпадках у выглядзе голых сцен без вокнаў, дзвярэй і якіх-небудзь перакрыццяў. І будынкі гэтыя знаходзяцца не дзенебудзь на перыферыі рэспублікі, а амаль у цэнтры Мінска. Немалая колькасць будынкаў, якія пяройдуць згодна з указам на баланс Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў, далёка не новабудоўлі. Многія з іх па 25—30 гадоў не бачылі нават касметычнага рамонту, не кажучы ўжо пра капітальны. Міністэрствам навядзенне належнага парадку ў гэтых будынках у адзіночку можа быць не пад сілу. Калі ж гэтым будзе займацца спецыялізаванае ўпраўленне, справа, відаць, не такая безнадзейная. Многае можна паправіць.

**— Тым не менш, ёсць меркаванне, што самым смачным лакамым кавалкам пірага, які дастаецца новаму гаспадару з перадачай у аператыўнае кіраванне новых будынкаў, стане арэндная плата, якая будзе паступаць ад камерцыйных структур, што знайшлі ў сценах гэтых будынкаў часовы прытулак?**

— Арэндная плата сапраўды пойдзе. Пытанне толькі — куды? Большая частка гэтых паступленняў цэнтралізаваным шляхам папоўніць дзяржаўны бюджэт. Пацвярджэннем таму служыць указ Прэзідэнта, выдадзены ў снежні 1994 года, згодна з якім Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта былі перададзены першыя 59 будынкаў у Мінску. У 38 з іх свабодныя плошчы сапраўды здаваліся ў арэнду камерцыйным структурам, фондам, грамадскім арганізацыям. Нам удалося перазаключыць дагаворы на здачу ў арэнду плошчаў амаль з 350 суб'ектамі гаспадарання, і на працягу года дзяржаўная казна папоўнілася на 32 мільярды рублёў. Прычым, калі раней кожны ўладальнік памяшкання дыктаваў свае правы, свае стаўкі і тарыфы, то з перадачай будынкаў на баланс Кіраўніцтва справамі ўмовы арэнды былі для ўсіх роўныя. Базавая стаўка за арандуемы квадратны метр плошчы ў будынках дзяржаўнай уласнасці была ўстаноўлена ў памеры 10 долараў ЗША за квадратны метр. У залежнасці ад таго, дзе знаходзіцца будынак, у якім ён стане, якія камунальныя паслугі аказваюцца, памер аплаты можа быць або павышаны, або, наадварот, зніжаны. Афіцыйна ўстаноўлена льгота для ветэранскіх і грамадскіх арганізацый.

**— Згодна з дадаткам да ўказа Прэзідэнта, колькі будынкаў будзе перададзена на баланс Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў?**

— З балансу міністэрстваў на баланс Галоўнага ўпраўлення будзе перададзена каля 80 будынкаў, размешчаных па ўсім Мінску. Уласнікамі 13 з іх раней было Міністэрства прамысловасці, адзінаццаццю распараджалася Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, 10 належалі Міністэрству сельскай гаспадаркі і харчавання, 6 будынкаў абавязана перадаць Міністэрства абароны, 5 — Міністэрства паліва і энергетыкі. Па некалькі аб'ектаў са сваіх балансаў здымуць міністэрствы гандлю, сувязі і інфарматыкі, адукацыі і навукі, спорту і турызму. Для перадачы будынкаў з балансу на баланс пры Кіраўніцтве справамі створана 16 камісій, якія зоймуцца прыёмкай будынкаў.

**— Наколькі механізм рэалізацыі ўказа можа аказацца «балючым» для бакоў, чые інтарэсы закранае дакумент, падпісаны кіраўніком дзяржавы?**

— Перадача будынкаў у падпарадкаванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта зусім не азначае спынення правоў міністэрстваў і ведамстваў на валоданне і карыстанне перададзенай ім маёмасцю. Усе дзяржаўныя структуры, якія размяшчаліся ў гэтых будынках раней, будуць знаходзіцца ў іх і ў далейшым. Гэты ўказ Прэзідэнта можа не спадабаецца толькі кіраўніцтву тых дзяржаўных структур, якія знаходзіліся ў гэтых будынках і распараджаліся імі на правах амаль асабістай уласнасці, здавалі плошчы ў арэнду камерсантам на толькі ім вядомых умовах. Цяпер гэты механізм можна будзе ўпарадкаваць, надаўшы яму больш цывілізаваны характар.

Па наяўнай у нас інфармацыі, у асобных будынках іх уладальнікі здавалі да 70 працэнтаў усіх плошчаў. Калі гэты будынак належыць дзяржаве, то чаму даходы ад яго эксплуатацыі павінна атрымліваць толькі жменька народу ў асобе калектыву той ці іншай дзяржаўнай установы, які воляй лёсу апынуўся ў гэтым будынку гаспадаром? Пагадзіцеся, што гэта не зусім справядліва.

# Трывога і шчасце Івана Шамякіна

## *Сёння славутаму беларускаму пісьменніку спаўняецца 75 гадоў*

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

### ПРА КЛАСІКАЎ І ВЕТЭРАНАЎ

...Нягледзячы на ўстойлівае меркаванне літаратуразнаўцаў і чытачоў, Шамякін класікам сябе не адчувае. Іван Пятровіч лічыць, што, па-першае, гэта было б нясціпла, а па-другое, у яго ўяўленні паняцце «класік» амаль заўсёды, на жаль, прыходзіць пасля, калі пісьменніка ўжо няма на гэтай грэшнай зямлі. Пра сябе і сваіх калег па пяру пісьменнік гаворыць так:

*— Яны, напэўна, адчуваюць сябе гэтак жа няёмка, калі іх называюць класікамі. Мы — звычайныя аратыя, працаўнікі, толькі што старыя. Так бы мовіць, ветэраны літаратуры...*

Для звычайнага чалавека своеасаблівая мяжа старасці — пенсія. Ён лічыць: два гады засталося, год... а потым, уздыхаючы, гаворыць аб сабе: «Я ўжо пенсіянер. Я — стары». Для пісьменнікаў (маю на ўвазе асноўны занятак — творчасць) узроставы цэнз не вызначаны. Выходзіць, ярка акрэсленай мяжы, пераступіўшы якую, адчуваеш сябе старым, няма?

*— Людзі нярэдка не хочуць ісці на пенсію, асабліва людзі разумовай працы, — растлумачыў Іван Пятровіч. — Таму што для чалавека, які становіцца пенсіянерам, гэта трагедыя, і ён пачынае адчуваць сябе старым і непатрэбным... Я ж пайшоў на пенсію ў 72 гады, з пасады галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя». Таму трагедыі не адчуў: ужо і пара дзеду. Спачатку, вядома, крыху было нейкае адчуванне адарванасці ад людзей, ад калектыву. Але нядоўга — пачалося лета, завіхаўся на дачы. Неяк лёгка цалкам уключыўся ў творчую працу і раптам адчуў, як гэта хораша: не быць занятым ні гаспадарчымі праблемамі, ні просьбамі падначаленых, а цалкам аддавацца творчасці. Пераканаўся, што трэба было б пайсці на вольны хлеб яшчэ раней. Я зараз адчуваю сябе спакойным, ураўнаважаным, нельга сказаць, што непатрэбным, пенсіянерам: я ж працую — пішу...*

### ПРА ГЕРОЯЎ, ЯКІХ ПАЗНАЮЦЬ

Героі Шамякіна сталеюць, мяняюць свой светапогляд разам з ім. Амаль у кожным творы чытач пазнае ў героі самога аўтара, калі не ва ўсім падобнага, то хаця б у некаторых эпізодах, дэталях. Неяк інтуітыўна адчуваеш, што вось гэта ці тое аўтар пісаў з сябе...

А ён і сапраўды «спісвае» свае думкі, свае адчуванні, надзяляе героя сваімі рысамі і звычкамі. Бывае, пасля, прачытаўшы напісанае, сам здзіўляецца: «Божа мой, як гэты на мяне падобны», бывае, наадварот, «спісвае» сябе наўмысна, робячы твор аўтабіяграфічным...

У Шамякіна, па яго словах, два аўтабіяграфічныя творы. Першы — «Трывожнае шчасце».

*— Так я ажаніўся, як у «Непаўторнай вясне», так ваяваў на Поўначы, так настаўнічаў пасля вайны, так мая жонка жыла ў акупацыі. Адзінае, чаго не было ў жыцці, а ёсць у кнізе — сюжэт аповесці «Пошукі сустрэчы». Мой герой прылятае ў партызанскую зону, а я ўсю вайну ваяваў на фронце... Дарэчы, за гэту аповесць заўваг ад крытыкаў было найбольш...*

Другі аўтабіяграфічны раман — «Зеніт» (выдадзены ў 1989 годзе). Зноў самае моцнае ўражанне маладосці — вайна, зноў — фронт, зноў Поўнач. Праз прызму свайго, суб'ектыўнага — думкі і ўчынкі маладога камсорга дывізіёна, у падначаленні якога дзіўныя байцы зенітнай батарэі — маладыя дзяўчаты...

А ў іншых кнігах, бывае, нехта са знаёмых пазнае жонку аўтара ці сябра. У галоўным героі «Атлантаў і карыятыдаў», архітэктары Карначы, усе аднадушна прызналі Андрэя Макаёнка.

*— Прызнаў і сам Андрэй, — успамінае Іван Пятровіч. — Зусім не пакрыўдзіўся, нават пажартаваў...*

Сёння ў героях фільма «Эпілог», знятага па дзвюх аповесцях Шамякіна, гледачы таксама пазнаюць: у пісьменніку, які вязе на продаж свае кніжкі, — самога аўтара. У другім героі, які прадае свае карціны за мяжу, — аднаго славутага беларускага мастака. Іван Пятровіч не назваў гэтыя аповесці і сцэнарый фільма аўтабіяграфічнымі. Але ў ходзе далейшай гутаркі я зразумела, што ў іх — «спісванне» калі не ўсяго жыцця, дык думак, светаадчування сённяшніх творцаў, калі не фізічных, дык маральных іх пакут ад таго, што робіцца ў грамадстве і што Шамякін у гутарцы называў гэтак жа, як адну са сваіх аповесцей, — «Падзенне».



### ПРА ТОЕ, ШТО БАЛІЦЬ (ЯГО ТРЫВОГА)

Герой «Падзення» — «новы беларус». Нажыўшы багацце несумленным шляхам, ён коціцца ў бездань далей — здраджвае жонцы, заражаецца СНІДам, заражаючы і яе... У «Сатанінскім туры» гандляры, што едуць у Польшчу, возяць у сваім аўтобусе нябожчыка — памёршага ў дарозе таварыша, каб толькі не сарвалася паездка... Няма ні светлага пачатку, ні станоўчага героя. Як жа можа літаратура выхоўваць?

*— Я быў малады, прыйшоў з вайны, выжыў, жыццё з году ў год паляпшалася. Натуральна, я глядзеў на свет аптымістычна і «спісваў» сваё светаадчуванне... Цяпер я адгукаюся на ўсё тое, што з намі адбываецца, я не магу прайсці міма. Калі пісьменніку жывецца дрэнна — ці можна ад яго чакаць светлага пачатку і станоўчых вобразаў?.. Адбываецца падзенне — падзенне нораваў у грамадстве. Мае творы — гэта мая трывога, мой боль, мой звон: «Людзі, апомніцеся!» Што ж казаць пра нас, калі сюжэт «Сатанінскага тура» — ніякая не творчая выдумка, а рэальнае здарэнне... Калі ў «Падзенні» я пішу вобраз, я спадзяюся, што нехта, прачытаўшы, задумаецца. Вось вам і выхаванне... А наконт станоўчага героя... На адной прэзентацыі, дзе былі «новыя беларусы», я прапанаваў ім: дайце мне прыклад сумленнага чалавека са свайго асяроддзя — я напішу пра яго. Яны толькі засмяяліся...*

Пісьменніку яшчэ многае баліць. Са слязамі на вачах гаварыў ён мне пра развал культуры, пра бядотнае становішча творцаў: падаюць тыражы, карціны не купляюцца... Пра тое, што ўсталёўваюцца сёння абыякавасць і апатыя, сярод інтэлігенцыі...

Няўжо нічога светлага, нічога, што радуе?

### ПРА ТОЕ, ШТО РАДУЕ (ЯГО ШЧАСЦЕ)

Радуе тое, што ніколі тым, што пісаў і піша, не папракаюць унукі.

*— Бываюць рознагалоссі з унучкай, студэнткай універсітэта, кшталту: «Я, унучка такога вядомага пісьменніка, апранаюся горш за многіх». Але каб яна ці старэйшы ўнук папракнулі, што не тое пісаў, — не, такога не бывае ніколі. Дзякуй Богу, мае родныя разумеюць і тое, што пісаў раней, і тое, што зараз пішу. І чытачы таксама. Цяпер я сустракаюся з імі радзей, але і на тых нешматлікіх сустрэчах я не чую папрокаў.*

Яшчэ пісьменнік цешыць сябе надзеяй, і, як ён лічыць, небеспадстаўнай, што літаратура наша выжыве, што ёсць добрая змена старэйшаму пакаленню:

*— Калі заходжу ў Саюз пісьменнікаў, заўсёды заглядваю ў былую прыёмную. Там цяпер рэдакцыя часопіса «Першацвет». Гэты пакой заўсёды набіты пісьменнікамі-пачаткоўцамі, яны дзеляцца думкамі, спрачаюцца. Нярэдка я ўключаюся ў гутарку з імі. У гэтых маладых людзей высокая адукацыя, высокая культура. Мы, прыйшоўшы з вайны, такімі не былі... Нягледзячы на цяжкасці, з якімі сёння пачаткоўцы сустракаюцца на кожным кроку, яны ўсё ж упарта прабіваюць дарогу. Шмат прыходзіць дзяўчат, асабліва ў паэзію. Усё гэта радуе і пакідае надзею...*

### ПРА РАДЗІМУ І НАРОД

*— ...Я яшчэ не адышоў ад таго адчування, што Радзіма — Савецкі Саюз. Беларусь — яна заўсёды была радзімай, але было нешта большае. Я проста фізічна перажываю гэты развал. Цяпер я не магу паехаць у Маскву. Не тое што грошай не хопіць ці яшчэ што. Не выдаюць мяне там. Няма да каго зайсці ў выдавецтва, як раней, пасядзець за чаркай з добрымі сябрамі, пагаварыць — пастарэлі яны ці зусім адышлі. Тое самае і на Украіне...*

*— ...Народ-рэаліст. Ён спалохаўся стыхійнай беларусізацыі пачатку 90-х. Што вінаваціць народ у выніках рэферэндуму? Так склалася, выходзіць, так мы працавалі дагэтуль... Іншая справа, што трэба зрабіць сёння ўсё неабходнае для раўнапраўя абедзвюх моў. Гэта ўжо справа ўлады. Аб гэтым я пісаў у адкрытым лісце Прэзідэнту.*

*Сягоння народ заняты здабываннем жыццёва неабходнага. І ўсё ж ён мужны і мудры. Бо спакойна пераносіць цяжкасці — без выбухаў і без крыві...*

### ПРА НАСТАЎНІКАЎ І МУЗУ

Кожны, хто піша пра пісьменніка, стараецца даведацца дзве самыя рамантычныя дэталі яго творчай біяграфіі: хто вучыў ствараць і хто натхняе на творчасць? Не ўстрымалася ад гэтых пытанняў і я.

*— Непасрэдна настаўніка сярод пісьменнікаў у мяне не было, — прызнаўся Шамякін. — Праўда, Чэхаў — любоў асаблівая. З цеплынёй успамінаю сваю настаўніцу роднай мовы ў 7 класе Яўгенію Кузьмінічну Анціпаву. Яна неяк асабліва змагла прывіць любоў да роднага слова такую моцную, што пранёс я яе і праз тэхнікум, дзе мову не вывучалі, і праз вайну, дзе заўсёды гаварыў па-руску...*

Муза ў Івана Пятровіча была заўжды адна. Яна і сёння — муза і захавальніца. Гэта жонка — Марыя Філатаўна. Іван Пятровіч памятае, як у пятым класе, седзячы ў яго за спінай, Маша з сяброўкамі скубла яго за каўнер і біла алоўкам па вушах за тое, што не даваў спісваць матэматыку. Пасля ён пераехаў у іншую школу, і сустрэліся яны зноў ужо толькі студэнтамі — ён будаўнічага тэхнікума, яна — медвучылішча. Потым...

*— Калі чыталі «Непаўторную вясну», дык ведаеце, што было потым, — смяецца Іван Пятровіч.*

### І НАРЭШЦЕ, ПАЖАДАННІ ЮБІЛЯРА І ЮБІЛЯРУ

Прыемна, калі жадаюць усяго добрага на юбілей родныя і блізкія людзі. Але і сам сабе жадаеш...

Іван Пятровіч жадае сабе перш за ўсё здароўя. Ён рэальна глядзіць на свой узрост. Творчых планаў і задум у пісьменніка шмат. Галоўнае — каб былі сілы іх рэалізаваць.

Чытачам «Звязды» і сваім чытачам пісьменнік пажадаў лепшага жыцця і веры ў мір, спакой і шчасце нашых дзяцей і ўнукаў...

Хай пачуе Вас Бог, Іван Пятровіч!

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**




## ФАРБЫ ДЗІЦЯЧАГА СВЕТУ, ЯКІЯ ГРЭЮЦЬ НАШЫЯ ДУШЫ

«Сёе-тое я малюю па памяці, нешта прыдумваю сама, а часам — змалёўваю», — шчыра прызналася Саша. Мастачка Людміла Тарановіч, што мае вопыт работы з таленавітымі дзецьмі ў гуртку мінскага Палаца дзяцей і моладзі, сказала мне за хвіліну да Сашыных слоў: «Гэта дзяўчынка — нешта унікальнае».

Людміла Антонаўна мела на ўвазе Сашыны работы, асабліва графіку, на якую звярнула асаблівую ўвагу. Але не толькі...

Пра цяжкі і не зусім звычайны лёс Сашы Гушчы і яе сям'і ўжо расказвалі многія газеты розных краін свету. У адным са снежаньскіх нумароў зрабілі гэта і мы (2.12.95 г., «Саша»). Розныя водгукі атрымалі пасля гэтага. Грашовы перавод, прапанову сябраваць і перапісвацца, малюнкі ў падарунак, просьбы аб парадзе ад тых, з кім здарылася падобная бяда... Прыйшло і дзіўнае пасланне ад нейкага нібыта экстрасенса (асабіста я не вельмі зразумела яго сэнс). Саша і яе мама, Наталля Рыгораўна, папрасілі шчыра падзякаваць усім добрым людзям і перадаць, што экстрасенсам даўно не вераць (ёсць на тое ў іх мінулы сумны вопыт).

А днямі ў памяшканні Беларускага дзіцячага фонду адкрылася персанальная выстаўка нашай гераіні. Гэта экспазіцыя, якая ўключае 19 работ, даўно выношвалася яе арганізатарамі і будзе працаваць на працягу двух месяцаў.

Справа ў тым, што яшчэ да паездкі Сашы з мамай на лячэнне ў Амерыку на малюнкі дзяўчынкі, у якой няма пальчыкаў на ручках, але ёсць талент, добрае сэрца і неадольная прага жыцця, звярнуў увагу старшыня Дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі. Дзякуючы Уладзіміру Сцяпанавічу малюнкі ўпрыгожылі тады часопіс «Вясёлка». Потым яны не раз дэманстраваліся ў Канадзе і Германіі, іх ведаюць таксама ў Амерыцы, Расіі.. Дзе б ні лячылася дзяўчынка, у якіх бы цікавых мясцінах ні пабывала дзякуючы добрым людзям, — усё пераносіць на паперу, дорыць на памяць. У яе альбомах — цэлыя серыі малюнкаў пра Дыснейленд, сям'ю львоў, усякія прыдуманыя і падгледжаныя ёю гісторыі...

Спецыялісты лічаць, што з Сашай неабходна займацца. Дзяўчынка вучыцца дома, але ў хуткім часе зможа наведваць і школьныя ўрокі малявання. Як сказалі ў Дзіцячым фондзе, на арганізацыю Сашынай выстаўкі паўплывала нейкім чынам і наша «звяздоўская» публікацыя. Але што самае прыемнае, дык гэта тое, што адзін малюнак, зроблены дзяўчынкай некалькі дзён таму, яна прэзентавала спецыяльна для чытачоў нашай газеты.

Дзякуй, Саша!

**Таццяна СНІТКО.**

**НА ЗДЫМКАХ: імгненні адкрыцця выстаўкі: радасць і хваляванне; Сашын падарунак нашым чытачам.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**





## АГУЛЬНЫ ПЛЁН АД ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЯ

З даных Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, агучаных на нядаўнім семінары «Жыллёвая палітыка ў Рэспубліцы Беларусь ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі», вядома, што напрыканцы леташняга года кошт будаўніцтва аднаго квадратнага метра агульнай плошчы жылля тыпавых спажывецкіх якасцей у нашай краіне склаў 220—350 долараў ЗША, альбо ў сярэднім 3,3 млн. рублёў. За кошт усіх сродкаў, вырučаных ад прыватызацыі жылля ў перыяд з лістапада 1992 года па ліпень 1995 года, можна было б пабудаваць усяго толькі 250 кватэр агульнай плошчай 12,9 тысячы квадратных метраў.

Атрымліваецца, што, ажыццявіўшы шляхам прыватызацыі продаж 471,6 тысячы кватэр, дзяржава выручыла сродкі на будаўніцтва 250 кватэр. У пераліку ж на жылыя дамы можна сцвярджаць, што сродкаў, выручаных ад прыватызацыі 6080 кватэрных жылых дамоў, хопіць усяго толькі на будаўніцтва трох такіх дамоў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КАЛІ РАЎНЯЦЦА НА СУСЕДЗЯЎ, ТО ПАВЫШЭННЕ ТАРЫФАЎ НЕПАЗБЕЖНА

**Чуткі аб тым, што беларускія чыгуначнікі маюць намер павысіць тарыфы на праезд у прыгарадных паяздах і правоз грузаў, маюць зусім рэальную глебу.**

Даражэюць з кожным месяцам матэрыяльныя, энергетычныя рэсурсы, растуць страты ад пасажырскіх перавозак... А яшчэ больш пераканаўча выглядае гэта неабходнасць, калі паглядзець на суседзяў. Кошт праезду адной зоны ў прыгарадным поездзе і плата за правоз 1 тоны грузу на адлегласць 1 кіламетра ва ўнутрырэспубліканскіх зносінах у Беларусі складаюць адпаведна 800 і 7760 рублёў. А, напрыклад, расійскія чыгуначнікі ў сябе па гэтых жа артыкулах бяруць 600 і 21.117 сваіх рублёў. Далей, у прыватнасці, на Украіне ўсё выглядае яшчэ даражэй, у доларавым вылічэнні адпаведна 0,7 і 1,66, у Літве — 0,5 і 1,37, у Латвіі — 0,18 і 1,22.

**Ігар ПЯТРОЎСКІ,**
**Таццяна СМІРНОВА,**
**БЕЛТА.**

## У РЭСПУБЛІЦЫ САХА КЛАПОЦЯЦЦА ПРА ТАМТЭЙШЫХ БЕЛАРУСАЎ

**Рэспубліка Саха (а прасцей — Якуція) — месца маланаселенае — усяго 1 мільён 20 тысяч чалавек. Але колькасцю нацыянальнасцяў, што жывуць там, можа супернічаць з самымі вядомымі «канкурэнтамі»: у Якуціі жывуць прадстаўнікі 116 народаў, з якіх вылучаюцца 24 дыяспары. Думаецца, беларусам цікава будзе даведацца, што ў далёкай халоднай Якуціі жывуць дзесяць тысяч нашых землякоў. Яны аб'яднаны ў беларускую дыяспару «Суродзіч», якую ўзначальвае Таццяна Кавалёва.**

Кіраўніцтва Якуціі, асабліва яе прэзідэнт Мікалаеў, вельмі зацікаўлены ў тым, каб усім народам на іх зямлі жылося добра. Створана нават Міністэрства па справах народаў Рэспублікі Саха. Галоўны яго прадстаўнік, а дакладней — сам міністр Уладзімір Тапаркоў, днямі наведаў Беларусь. Ён сустрэўся з прадстаўнікамі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», рэспубліканскага Цэнтра нацыянальных культур, таварыства «Радзіма», таварыства дружбы і культурных сувязей. Сп. Тапаркоў меў размову з міністрам культуры Анатолем Бутэвічам. Мэта візіту міністра — падпісанне двухбаковага пагаднення аб супрацоўніцтве. Беларускай дыяспары добра жывецца ў Якуціі, калі ёй спрыяе мясцовае кіраўніцтва, але зажывецца яшчэ лепш, калі дапамогуць і суайчыннікі-беларусы — падручнікамі для нядзельных класаў, беларускамоўнай літаратурай, падрыхтаванымі кадрамі для выкладання ў тых жа нядзельных класах. Пагадненне пакуль не падпісана — у нас няма аналагічнага міністэрства, і дакумент павінны абмеркаваць і дапрацаваць некалькі іншых ведамстваў, якія маюць да гэтага дачыненне. Мяркуецца, што ён будзе падпісаны летам. На клопат аб нашай дыяспары мы не можам адказаць тым жа: якуцкай дыяспары ў нас няма. Няма нават афіцыйных даных аб ураджэнцах гэтага краю на Беларусі. Але міністр настроены аптымістычна: ён атрымаў запрашэнне на навукова-практычную канферэнцыю «Нацыянальныя меншасьці Беларусі: шляхам супрацоўніцтва і згоды», што пройдзе ў маі ў Мінску, і спадзяецца сустрэць на ёй сваіх землякоў.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## НЯМЕЦКІМ БІЗНЕСМЕНАМ ПРАПАНУЮЦЬ НЕРУХОМАСЦЬ У ЯКАСЦІ ПЕРНІКА

**Учора адбылася сустрэча прадстаўнікоў дзелавых колаў Германіі з гарадскімі ўладамі сталіцы.**

На сустрэчы мэр горада спадар Ярмошын адзначыў, што адносіны паміж нямецкім і беларускім бакамі ўжо не абмяжоўваюцца муніцыпальным турызмам. Супрацоўніцтва ў галіне эканомікі становіцца больш цесным. Аднак сталічныя ўлады пакуль не задаволены ўзроўнем інвестыцыйнай дзейнасці нямецкага капіталу ў Мінску. Напрыклад, сумесным праектам «Бальзен-Ромашка» па арганізацыі прадпрыемства па вытворчасці прадуктаў харчавання, у прыватнасці кандытарскіх вырабаў. Мэр сталіцы прапанаваў стварыць цалкам замежнае прадпрыемства, калі арганізацыя сумеснага выклікае цяжкасці.

Спадар Ярмошын заклікаў прадстаўнікоў нямецкага бізнесу ўкладваць грошы ў развіццё жыллёвага будаўніцтва, разглядзець пытанне аб пастаўцы абсталявання для ачышчальных збудаванняў, а таксама лячэбных устаноў. Сярод праектаў, якія прапануюцца для ўкладання інвестыцый, — будаўніцтва тэхнапарка ў горадзе, сеткі супермаркетаў і станцый тэхнічнага абслугоўвання машын, будаўніцтва і рэканструкцыя гасцініц у цэнтральнай частцы горада і міжнародным аэрапорце «Мінск-2», тэхнічнае абсталяванне мясаперапрацоўчага і рэканструкцыя малаказавода і інш. У якасці гарантый прапануецца залог гарадской камунальнай уласнасці.

Нямецкі бок гарантыі задаволілі. Было выказана меркаванне, што ў такім разе магчыма паспяховая рэалізацыя многіх праектаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

### *УСМЕШКА МАСТАКА*




*— Не зусім прыемная гэта справа — французская кухня!*

**Мал. Марыны ГАРЭЛАВАЙ.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі невялікі снег. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 3—5, Віцебску — 4—6, Магілёве, Гомелі і Мінску — 5—7 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 31-га — на большай частцы тэрыторыі, 1 лютага — месцамі чакаецца снег. Тэмпература 31-га на працягу сутак 3—8, уначы па поўдню — да 13 градусаў ніжэй нуля. 1 лютага ўначы — 11—16, удзень — 4—9 градусаў марозу.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 30 студзеня

Надвор'е будзе вызначацца перыферыяй антыцыклону, што прывядзе да росту атмасфернага ціску (5—6 мб) і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах павышаецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых на гіпертанічную хваробу, стэнакардыю, а таксама ў хворых з апераджальнай рэакцыяй на неспрыяльныя ўмовы ў геафізічным плане 30 студзеня.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца адмяніць далёкія паездкі, панізіць фізічную актыўнасць, прытрымлівацца дыеты, прымаць заспакаяльныя і сасудрасшыральныя лекавыя прэпараты, полівітаміны.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*КРЫМІНАЛ*

# ТАЙНЫ «ФАЛЬШЫВАМАНЕТНАГА ДВАРА»

***Кажуць, што рынак патрабуе прафесіяналаў. Аднымі з першых на гэта патрабаванне часу адгукнуліся... прафесіянальныя злачынцы. У прыватнасці фальшываманетчыкі. Людзі гэтай злачыннай «прафесіі» на Беларусі дасягнулі велізарных «поспехаў». Мажліва, калі б члены журы па прысуджэнню «Факела Бірмінгема» ведалі, дзе знаходзяцца фальшываманетчыкі, што наваднілі Беларусь высакаякаснымі падробленымі доларамі, маркамі і расійскімі рублямі, то прысудзілі б сваю пачэсную ўзнагароду гэтым «майстрам». Бо «прагрэс» у сферы фальшываманецтва відавочны. Калі, напрыклад, у 1991 годзе ў нашай дзяржаве былі зафіксаваны ўсяго 3 факты падробкі грошай, то за мінулы год — аж 2302.***

***Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што праваахоўныя органы краіны, і ў прыватнасці ўпраўленне па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (УБЭЗ) Міністэрства ўнутраных спраў, таксама не спяць у шапку. За мінулы год імі было выяўлена і абясшкоджана 18 злачынных груп, якія займаліся збытам «несапраўдных» грошай. Тым не менш, сітуацыя паранейшаму застаецца складанай — фальшывых грашовых купюр на Беларусі даволі шмат. І фактычна кожны з нас, хто хоць неяк захоча засцерагчы свае даходы ад інфляцыі, набываючы больш стабільныя валюты, можа стаць ахвярай прайдзісветаў. Ды і цэлыя дзяржаўныя ўстановы таксама не застрахаваны ад такога падману.***

***Аб тым, як праваахоўныя органы змагаюцца з фальшываманетнай навалай, карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі Рыгора Швайко.***

**— Рыгор Іванавіч, фальшывыя банкноты банкаў якіх дзяржаў найчасцей сустракаюцца апошнім часам на Беларусі?**

— За мінулы год выключана з абарачэння 6616 грашовых купюр. У тым ліку 3867 банкнотаў Банка Расіі, 2329 купюр долараў ЗША, 290 купюр дойчмарак, 188 купюр беларускіх рублёў, 32 купюры іншых дзяржаў. У асноўным усе гэтыя фальшыўкі зроблены з выкарыстаннем сучаснай капіравальна-множыльнай тэхнікі і таму іх вельмі цяжка адрозніць «няўзброеным» вокам ад сапраўдных грошай. Па нашых звестках, на тэрыторыі Беларусі такіх падпольных фабрык па друкаванню высакаякасных фальшывак няма.

Усе падробленыя грошы, выключаныя з абарачэння, друкуюцца за мяжой. У Польшчы, краінах Балтыі, Расіі.

Напрыклад, нам добра вядома, што дзесьці непадалёку ад Варшавы існуе нелегальны «цэх» па выпуску расійскіх банкнотаў вартасцю 50 тысяч. І хоць гэтая падпольная «друкарня» разлічана пераважна на расійскі рынак, даволі вялікія сумы зробленых там, пад Варшавай, фальшывых расійскіх рублёў асядаюць і ў нашай дзяржаве. Штосьці застаецца падчас транзітнага перавозу ў Расію, а найчасцей несапраўдныя расійскія рублі наўмысна закідваюць на Беларусь. Прычым гэтым «бізнесам» займаюцца не толькі нашы суайчыннікі, але і польскія грамадзяне. Прывяду некалькі найбольш яскравых прыкладаў.

У студзені мінулага года двое жыхароў Гродна, Л. і С., былі затрыманы пры спробе збыць фальшывыя пяцідзесяцітысячныя расійскія купюры. Як выявілася, гэтыя падробленыя грошы на суму 18 мільёнаў расійскіх рублёў ім, згодна з ранейшай дамоўленасцю, прывезлі ў Гродна польскія грамадзяне. Адметна, што нашы «прадпрымальнікі» паспелі збыць 3 мільёны фальшывых рублёў Банка Расіі. Прычым амаль усе здалі ў абменныя пункты. Падробку выявілі толькі ў банку. Гэтыя фальшыўкі знешне амаль не адрозніваюцца ад сапраўдных грошай, на іх былі нават вадзяныя знакі. «Прадукцыю» гэтай жа «фірмы» на агульную суму 14 мільёнаў 350 тысяч рублёў збывалі на гродзенскім рэчавым рынку двое палякаў.

У прыгранічным Брэсце ў верасні мінулага года намі затрымана група беларускіх грамадзян, якія спрабавалі памяняць 1800 пяцідзесяцітысячных купюр Банка Расіі на суму 95 мільёнаў 650 тысяч. Зноў жа гэта грошы, падробленыя ў той самай польскай друкарні, што па нашых звестках знаходзіцца непадалёку ад Варшавы.

**— Мне не зусім зразумела, чаму падпольная друкарня, пра месцазнаходжанне якой вы, хай сабе і прыблізна, ведаеце, працягвае працаваць?**

— Мы спрабавалі наладзіць кантакт з польскімі калегамі і «рассакрэціць» гэтую нелегальную фабрыку грошай. Але пакуль, на жаль, не атрымалася. Польская паліцыя нібыта і не супраць злавіць фальшываманетчыкаў, але разам з тым не праяўляе асаблівай стараннасці.

Да таго ж выявіць гняздо фальшываманетчыкаў — справа нялёгкая. Гэта адна з самых арганізаваных злачынных структур. Вось толькі адзін прыклад. У мінулым годзе мы арыштавалі групу, якая мяняла фальшывыя расійскія рублі «польскай вытворчасці» ў Віцебскай, Пскоўскай і Смаленскай абласцях. У гэтых «гастралёраў» у машыне была радыёстанцыя, настроеная на міліцэйскую хвалю, таму калі мы затрымалі адну машыну, дзе сядзелі збытчыкі фальшывак, другія адразу ж уцяклі. Іх потым ледзь знайшлі ў лесе, і то дзякуючы дапамозе верталётчыкаў. Што ўжо казаць пра ступень арганізаванасці тых, хто кіруе вытворчасцю фальшывак.

Дарэчы, на Беларусі фальшываманетны «бізнес» знаходзіцца ў руках «крутых» злачынных аўтарытэтаў.

**— Ці спыніцца хваля фальшывых расійскіх рублёў на Беларусь, калі ўдасца ліквідаваць згаданую вамі нелегальную друкарню?**

— Я мяркую, што тады колькасць падробленых расійскіх купюр на Беларусі значна зменшыцца. Але фальшывыя расійскія рублі ў нашу краіну трапляюць і з самой Расіі, ці, дакладней, з Чачні. Яшчэ да вядомых ваенных падзей у Чачні таксама існавала падпольная фабрыка па выпуску падробленых расійскіх рублёў. Гэта таксама фальшыўкі высокай якасці. Праўда, колькасць «чачэнскіх грошай» на Беларусі невялікая. Відавочна, яны траплялі да нас выпадкова, асядаючы ў асноўным у Расіі.

**— Мяркуючы па прыведзенай вамі статыстыцы, на Беларусі долар па-ранейшаму застаецца «любімай валютай» фальшываманетчыкаў?**

— Так. Сітуацыя са збытам фальшывых долараў у нашай дзяржаве да лепшага, на жаль, не змянілася. Амаль штодзень выяўляліся і выяўляюцца факты збыту падробленых доларавых купюр —у асноўным вартасцю 50 і 100 долараў. «Суперпадробленыя» долары, як і расійскія рублі, трапляюць да нас з-за мяжы. Напрыклад, па звестках Інтэрпола, у Іране і Іраку працуюць падпольныя друкарні па выпуску фальшывых долараў. Іх амаль немагчыма адрозніць ад сапраўдных.

На Беларусі ёсць яшчэ «ўмельцы», якія займаюцца частковай падробкай долараў. Бяруць сапраўдныя адна,- пяці- і дзесяцідоларавыя купюры і прыклейваюць ці дамалёўваюць нулі. І хоць такую фальшыўку вельмі лёгка распазнаць нават «няўзброеным» вокам, здараюцца яшчэ выпадкі, калі некаторыя не вельмі ўважлівыя людзі пападаюцца на вуду «мастакоў-саматужнікаў».

**— Ці зафіксаваны ўжо факты збыту новых стодоларавых купюр?**

— Не. Пакуль такіх фактаў намі не выяўлена.

**— Шчыра кажучы, мяне крыху здзівіла, што і беларускія рублі таксама трапілі ў поле зроку фальшываманетчыкаў.**

— Наша нацыянальная валюта пакуль не карыстаецца такой папулярнасцю, як замежныя грошы. Прычына тут відавочная — беларускі рубель не мае такога імунітэту да інфляцыі, як, скажам, амерыканскі долар. Тым не менш, за мінулы год намі выключана з абарачэння 188 банкнотаў Нацыяльнага банка Рэспублікі Беларусь. У тым ліку 76 купюр вартасцю 1000 рублёў, 60 — пяцітысячных, 47 — дваццацітысячных, 2 — пяцідзесяцітысячных.

**— Незразумела, які сэнс зараз падрабляць беларускія аднатысячныя купюры?**

— Наўрад ці іх выпускалі нават у мінулым годзе. Хутчэй за ўсё, гэтыя фальшыўкі былі зроблены яшчэ тады, калі аднатысячная купюра не была абясцэнена. А зараз у абарачэнні рэшткі старога запасу. Найчасцей гэтыя фальшыўкі сустракаюцца ў Магілёве, магчыма, менавіта там і знаходзілася група «вытворцаў».

А вось у Віцебску ў мінулым годзе супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю УУС Віцебскага аблвыканкома выявілі фальшываманетчыкаў, якія падраблялі пяці- і дваццацітысячныя купюры Нацбанка Беларусі.

Увогуле ж, на шчасце, фальшывых беларускіх грошай пакуль нямнога.

**— Што перашкаджае сёння праваахоўным органам больш эфектыўна змагацца з фальшываманетчыкамі?**

— Становішча ўскладняецца тым, што ўсе падпольныя «фальшываманетныя двары» знаходзяцца па-за межамі Беларусі. На тэрыторыі сваёй дзяржавы мы хутка выявілі б гэтыя друкарні. Сёння мы трымаем пад пільным кантролем усю сучасную каляровую капіравальна-множыльную тэхніку. А вось за межамі Беларусі мы не можам эфектыўна змагацца з фальшываманетчыкамі. Я ўжо прыводзіў прыклад з польскай «друкарняй». Таму хацелася б, каб дзесьці на больш высокім узроўні была абмеркавана праблема барацьбы з фальшываманецтвам і, мажліва, заключаны спецыяльныя міжурадавыя пагадненні. Бо, як вядома, фальшываманетчыкі наносяць вялікую шкоду эканоміцы цэлых дзяржаў, а не толькі асобных грамадзян. Апроч таго, я лічу, што ў мясцовых упраўленнях і аддзелах унутраных спраў трэба стварыць спецыяльныя падраздзяленні па барацьбе з фальшываманецтвам. Інакш праз нейкі час нам будзе вельмі цяжка ўтрымаць сітуацыю пад кантролем.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**



# РАСІЮ ПРЫНЯЛІ Ў САВЕТ ЕЎРОПЫ. ЧАРГА ЗА БЕЛАРУССЮ

**Галоўнай падзеяй зімовай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, што праходзіла 22—26 студзеня ў Страсбургу, стала прыняцце ў гэтую аўтарытэтную старэйшую еўрапейскую арганізацыю 39-й краіны-члена — Расійскай Федэрацыі. 25 студзеня 164 галасамі «за» пры 35 «супраць» і 15 галасах тых, хто ўстрымаўся, члены Асамблеі прынялі спецыяльную пастанову № 7443 аб прыняцці Расіі ў Савет Еўропы і рэкамендацыях аб першачарговых мерах для гэтай краіны па паляпшэнню сітуацыі ў галіне аховы правоў чалавека, прававой рэформы і інш.**

Трэба зазначыць, што рашэнне гэта, якое на першы погляд было прадвызначана, далося нялёгка і парламентарыям СЕ, і расійскім прадстаўнікам. Пасля леташняй замарозкі расійскай заяўкі ў сувязі з вайной у Чачні, адтэрміноўкі гэтага рашэння, выглядала на тое, што калі яшчэ раз адкласці прыняцце Расіі ў СЕ, то яна ўвогуле адмовіцца ад сваёй заяўкі і пойдзе іншым шляхам, які, у рэшце рэшт, зноў прывядзе яе да ізаляцыі і канфрантацыі з Захадам. З другога боку, апошнія падзеі ў Чачні, Дагестане, адстаўкі рэфарматараў Козырава, Філатава, Чубайса, вынікі снежаньскіх выбараў у Думу вельмі засмуцілі дакладчыкаў па прыёму Расіі сп. Мюлемана, Біндзіга, Аткінсана. Што яны шчыра і выказалі ў сваіх прамовах. Аднак яны адзначылі і яўны прагрэс Расіі ў галіне свабоды слова, партый, абароны правоў чалавека, разумеючы, што тая сітуацыя, якая ёсць цяпер, не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што было ў СССР, і ўсведамляючы, што размова ў першую чаргу павінна весціся не столькі пра расійскую вярхушку, колькі пра ўвесь расійскі народ, якому патрэбны дадатковыя гарантыі абароны правоў чалавека, якому патрэбна інтэграцыя ў Еўропу . Таму дакладчыкі ўсё ж прапанавалі прыняць Расію ў Савет Еўропы. Аднак яны, як і большасць выступаючых (а запісалася ў спрэчкі амаль сто парламентарыяў з розных краін), падкрэслівалі, што прыняць такое рашэнне трэба перш за ўсё зыходзячы з палітычных меркаванняў з тым, каб не ісці далей па шляху ізаляцыі Расіі і новага процістаяння. Мы выбіраем меншую з дзвюх бед, — адзначалі некаторыя парламентарыі, у тым ліку і польскі прадстаўнік Мачульскі, які, каменціруючы гэтую сітуацыю, быў вельмі крытычны адносна сітуацыі ў Расіі і яе перспектыў, але ўсё ж канфрантацыя з Расіяй яму здавалася горшай бядой. «Не толькі Расіі патрэбна членства ў СЕ, але і нам патрэбна Расія», — зазначыў экс-прэзідэнт ПАСЕ М. Марцінез на сваёй апошняй прэс-канферэнцыі ў якасці лідэра Парламенцкай Асамблеі. У час спрэчак на пасяджэнні Асамблеі ён горача заклікаў галасаваць за Расію:

— Расіяне заявілі, што маюць права ўдзельнічаць у нашых праектах, пацвердзілі, што яны пабудуюць сваё грамадства ў адпаведнасці з агульнапрынятымі каштоўнасцямі, узялі на сябе абавязацельства з поўнай павагай да іншых членаў захоўваць дэмакратычныя нормы і правілы. Усё ж толькі меншасць нашых парламентарыяў лічыць, што канфрантацыя з Расіяй непазбежная, і яны хочуць ізаляваць яе. Ім процістаіць большасць, якая хоча зрабіць канфрантацыю з Расіяй немагчымай і прадоўжыць будаўніцтва адзінай Еўропы.

«Не дапусціць Расію ў Савет Еўропы — гэта тое ж самае, што не пусціць хворага ў бальніцу», — гаварыў адзін прамоўца, «СЕ павінен адыграць сваю ролю ў еўрапеізацыі Расіі,» — гаварыў другі. «Калі мы не прымем Расію, то Савет Еўропы застанецца толькі музеем правоў чалавека», — адзначаў трэці. Сапраўды, Савет Еўропы — гэта перш за ўсё арганізацыя, што абараняе правы і свабоды чалавека, і калі яна будзе ахопліваць краіны, дзе з гэтым няма асаблівых праблем, то ў значнай ступені страціцца сэнс яе існавання.

У вялікай ступені на пазіцыю парламентарыяў СЕ паўплывалі ўрады еўрапейскіх краін, якія аднесліся да прыняцця Расіі ў СЕ ў асноўным прыхільна, і вядомы расійскі праваабаронца С. Кавалёў, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам у Савеце Еўропы і летась атрымаў ягоную прэмію ў галіне аховы правоў чалавека. С. Кавалёў заклікаў прыняць Расію ў СЕ, хаця яшчэ летась ён быў супраць гэтага. Значыць, склалася пераломная ключавая сітуацыя, якая можа прадвызначыць далейшае развіццё падзей.

Трэба сказаць, што акрамя памяркоўнага і стрымана-прыхільнага стаўлення да прыёму Расіі былі і праціўнікі гэтага. Прадстаўнік Італіі Сперoні адкрыта заявіў, што ў Расіі нічога не змянілася, што ён занепакоены поспехам камуністаў і Жырыноўскага на выбарах, вайной і ахвярамі ў Чачні, што ў рэшце рэшт, прыём Расіі «прымусіць раку правоў чалавека выйсці з берагоў», бо сітуацыя там схавае пад сабой іншыя, больш дробныя праблемы, і ў гэтым пагражальны характар Расіі. «Што мы скажам у такім разе туркам, якія рэжуць галовы ў Курдыстане?» — пытаўся Сперoні. Падобнымі былі выступленні і каментарыі іншых прамоўцаў, у тым ліку вядомых нам Ландсбергіса, Чарнавіла і інш. У цэлым у палітычных групах асамблеі па пытанню прыняцця Расіі адбылося моцнае размежаванне: сацыялісты, лібералы выступілі «за», кансерватары і група еўрапейскіх народных партый — «супраць». «Расію мы не павінны прымаць таму, што яна супер-дзяржава», — зазначыў прадстаўнік групы народных партый дэпутат з Аўстрыі Швімер.

У час сесіі Парламенцкай асамблеі ў Страсбург прыбыў «дэсант» расійскіх палітыкаў і журналістаў. Прыехалі ў якасці спецыяльна запрошаных такія вядомыя расійскія парламентарыі, як Лукін, Зюганаў, Абдулаціпаў, Хакамада, Жырыноўскі і іншыя. Яны шмат зрабілі для таго, каб пралабіраваць інтарэсы Расіі ў шматлікіх кулуарных перамовах, на пасяджэннях груп і камітэтаў асамблеі. У цэлым гэта ім удалося. Аднак, паводле слоў Р. Абдулаціпава, найцяжэй ім было пераконваць у сваёй праўдзе былых братоў па сацыялістычнаму лагеру — дэпутатаў з Прыбалтыкі, Чэхіі, Польшчы і іншых посткамуністычных краін, што самі прабіліся ў СЕ, як у перапоўнены аўтобус, і адштурхоўваюць тых, хто яшчэ не ўвайшоў у яго... Гэта сапраўды было даволі адчувальна. І тлумачылася, гэта, зразумела, ранейшым вопытам адносінаў іх краін з Расіяй, іх бояззю перад ёю. В.Ландсбергіс асабіста прапанаваў каля дзесятка самых розных папраўак у прымаемы дакумент адносна каланіянізму і да таго падобных рэчаў, якія відавочна былі непрыемнымі для расійскіх прадстаўнікоў. Але большасць такіх папраўак усё ж была адхілена, і прыняты ў цэлым узважаны, стрыманы дакумент, які, тым не менш, прымушае Расію ісці на спыненне кровапраліцця ў Чачні, стварэнне спецыяльнага міратворчага камітэта, навядзення парадку ў турмах і вайсковых часцях і шмат іншага.

Расійскія парламентарыі выступалі ў асноўным стрымана і грунтоўна. Р. Абдулаціпаў, у прыватнасці, заявіў, што расійскі народ хоча жыць у міры і дэмакратыі, хоча быць адкрытым грамадствам, раўнапраўным партнёрам краін Еўропы. Г. Зюганаў зазначыў, што Расія цярпліва чакала ўсе адтэрміноўкі, але яшчэ адна адмова аслабіла б пазіцыі дэмакратычных сіл у Расіі і падштурхнула б нацыяналістаў і экстрэмістаў. Яркім пацвярджэннем апошняга тэзісу было істэрычнае выступленне ў зале асамблеі У. Жырыноўскага, які зноў абвінаваціў Захад у двух стандартах, прыгразіў яму чачэнскімі і іншымі бандамі, заявіў, што ён справіцца з Чачнёй за тры дні... «Калі вы не прымеце Расію, то вы зробіце вялікі падарунак мне і маёй партыі на прэзідэнцкіх выбарах», — заявіў Жырыноўскі. Відавочна, што гэта сур'ёзна паўплывала на парламентарыяў. Таму не выключана, што гэтае выступленне было такім тактычным ходам расійскай дэлегацыі. Хаця пазней, пасля прыняцця Расіі, на банкеце ў расійскім консульстве ў Страсбургу Жырыноўскі не хаваў свайго расчаравання — падарунка напярэдадні выбараў яму не зрабілі. Затое падтрымалі дэмакратыю і дэмакратаў у Расіі.

З прыняццем Расіі ў СЕ гэтая арганізацыя становіцца пан'еўрапейскай, мяняе сваё аблічча. Еўропа падтрымала Расію, жадаючы бяспекі і супрацоўніцтва з ёю, нездарма асноўны дакладчык, сп. Мюлеман, на прэс-канферэнцыі пасля станоўчага вырашэння гэтай праблемы зазначыў, што ў Расіі цяпер няма рэзонаў ні на агрэсіі, ні на новую «халодную вайну» і да т.п. Гэта вельмі важны стратэгічны крок для ўсёй Еўропы. І цяпер на карце Еўропы не членамі СЕ застаюцца толькі Беларусь, Харватыя ды іншыя краіны былой Югаславіі. Натуральна, што пасля прыёму Расіі надыходзіць чарга на разгляд і беларускай заяўкі. Новы прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Л. Фішэр на падагульняючай прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанне газеты «Звязда», зазначыла, што прыняцце Беларусі ў Савет Еўропы цяпер ужо «стаіць на парозе», што Савет Еўропы будзе сачыць, як пачне новы беларускі парламент сваю працу, а асабіста яна правядзе дадатковыя размовы з дакладчыкамі па праблеме прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы па палітычных і юрыдычных праблемах, і што пры пэўных складанасцях сітуацыя для Беларусі ў цэлым даволі спрыяльная. Л. Фішэр станоўча ацаніла свае перагаворы з прадстаўнікамі беларускай парламенцкай і ўрадавай дэлегацый, што былі на тым тыдні з візітам у Савеце Еўропы, і ў цэлым Беларусь можа разлічваць на прыняцце ў Савет Еўропы ўжо сёлета.

Такой жа думкі прытрымліваюцца і прадстаўнікі Беларусі — віцэ-прэм'ер У. Русакевіч, віцэ-спікер Ю. Малумаў, дэпутаты П. Краўчанка і М. Грыб. Прыняцце Расіі ў Савет Еўропы адкрывае дарогу і нам.

Мечаслаў Грыб у Савеце Еўропы быў не першы раз, але цяпер ён быў не кіраўніком парламенцкай дэлегацыі, тым не менш, памятаючы аб тым, што ён быў спікерам беларускага парламента, у Савеце Еўропы да яго звярталіся «Monsier le President», — па заходняй традыцыі такое званне застаецца за чалавекам пажыццёва. Вось як ацаніў вынікі візіту М. Грыб:

— Я лічу, што папрацавалі мы вельмі добра, сустрэлі нас як належыць. Мы разам сустракаліся з былым прэзідэнтам Марцінезам, новым — Фішэр, з Янсанам, які працаваў у нас на выбарах і будзе працаваць, са старшынёй Камітэта па сувязях з краінамі не членамі СЕ, з генеральным сакратаром Таршысам. Я выкарыстаў усе свае магчымасці, каб працаваць супольна ўсёй дэлегацыяй на карысць нашай радзімы... У нас шанцы на ўступленне ў Савет Еўропы вельмі сур'ёзныя, асабліва пасля прыняцця Расіі. Засталося нямнога краінне членаў. Я думаю, што ў нас цяпер адзіны шлях — у Савет Еўропы. Але мы для гэтага павінны яшчэ шмат папрацаваць, павінны стварыць камісіі, накіраваць людзей, каб яны да восені вельмі плённа папрацавалі. Самі па сабе гэтыя працэсы не адбываюцца, бо не ўсё яшчэ ў нас у парадку і з Канстытуцыяй, і з дэмакратыяй, і з правамі чалавекам. Калі хто пажадае знайсці нешта адмоўнае ў нашым жыцці, у нашай краіне, — ён знойдзе яго столькі, колькі захоча.

— Гэта не будзе перашкодай для інтэграцыі ў Савет Еўропы?

— Зразумела, будзе, але за гэты час, які нам адведзены для ўступлення, трэба зрабіць усё, каб пазбавіцца ад гэтых праблем, бо яны суб'ектыўныя, зыходзяць ад канкрэтных людзей. Трэба свае погляды і падыходы перагледзець нашым асобным спадарам, і ўсё стане на свае месцы. Мы павінны быць у Еўропе... Я разлічваю, што мы можам дабіцца разгляду нашай заяўкі на прыём у СЕ ў лістападзе. Калі ў нас усё будзе добра і мы будзем працаваць дзеля гэтага.

З асобнай місіяй у Савеце Еўропы гэтымі днямі быў віцэ-прэм'ер У. Русакевіч. Урадавая і парламенцкая дэлегацыі працавалі супольна, і гэта было плённа, бо прадстаўнікі Савета Еўропы бачылі, што асаблівых рознагалоссяў паміж дзвюма галінамі ўлады ў Беларусі няма.

— Нашы сустрэчы былі прадуктыўнымі, адносіны да Беларусі — паважлівыя і з боку генеральнага сакратара Д. Таршыса, і з боку прэзідэнта асамблеі Л. Фішэр, і з боку кіраўнікоў камітэтаў і службаў. Ёсць жаданне садзейнічаць уступленню Беларусі ў Савет Еўропы. Усё астатняе залежыць ад нас, ад таго, якія законы ў нас прымаюцца і як яны выконваюцца, — заявіў «Звяздзе» У. Русакевіч, які з'яўляецца кіраўніком міжведамаснага Савета па праблеме ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы. У. Русакевіч так пракаменціраваў вынікі сваёй паездкі:

— Мэта маёй паездкі — устанавіць асабістыя кантакты з кіраўніцтвам Савета Еўропы, каб больш канкрэтна працаваць. Цяпер я ведаю патрабаванні да нашай краіны, ведаю, што думае пра нас кіраўніцтва ЕС. Прысутнічаючы на прыёме Расіі ў СЕ, мы яшчэ лепей зразумелі, над чым нам трэба працаваць. Гэта перш за ўсё адаптацыя нацыянальнага заканадаўства да еўрапейскіх патрабаванняў. Таму на чарговым пасяджэнні Міжведамаснага савета мы будзем разглядаць усе гэтыя праблемы. І мы дамовіліся працаваць у гэтым плане супольна з нашымі парламентарыямі. Мы зразумелі, што нам трэба працаваць разам працаваць. Калі кіраўніцтва краіны паставіла задачу ўвайсці ў СЕ, то мы пастараемся гэтага дабіцца. Я зразумеў, што і ў кіраўніцтва СЕ ёсць зацікаўленыя адносіны да нас. Было нейкае непаразуменне ў сувязі з нашым парламенцкім крызісам, гэта натуральна. Цяпер усё пройдзена.

Праблемы перада мной пастаўлены канкрэтныя: вывучэнне сістэмы мясцовага самакіравання, работы СМІ, узаемадзейнічання з парламентам, накіраванне спецыялістаў на стажыроўку ў еўрапейскую Камісію па правах чалавека, адкрыццё прадстаўніцтва Беларусі пры СЕ — хаця б аднаго чалавека. Ну, і падрыхтоўка кадраў у рэспубліцы для правядзення рэформаў, якія чакаюць нас наперадзе... Мы не можам жыць ізалявана ад еўрапейскай супольнасці.

Знаёмства Беларусі з Саветам Еўропы пачалося з візіту С. Шушкевіча і П. Краўчанкі ў красавіку 1992 года. Неўзабаве пасля гэтага і была пададзена беларуская заяўка на членства ў СЕ, якая была афіцыйна фармалізавана ў сакавіку 1994 года.

На думку П. Краўчанкі, цяпер Беларуссю быў зроблены наступны крок да ўступлення ў Савет Еўропы, былі праведзены вельмі неабходныя кансультацыі з усім кіраўніцтвам Савета Еўропы, у палітычных фракцыях. Такім чынам, уступленне Беларусі ў Савет Еўропы становіцца для нас вельмі актуальнай задачай. І задачай рэальнай.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Страсбург—Мінск.*

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**• НА ДЗІВА СПАКОЙНАЯ НОЧ...**

Трое вайскоўцаў загінулі і восем атрымалі раненні за мінулыя суткі ў Чачні. Баевікі 20 разоў абстрэльвалі кантрольна-прапускныя пункты, заставы і пункты часовай дыслакацыі федэральных войскаў. Ноч на панядзелак прайшла ў Грозным на рэдкасць спакойна. У горадзе было зарэгістравана 9 начных абстрэлаў пазіцый федэральных сіл.

**• ВЫЗВАЛЕНА 76 ЗАЛОЖНІКАЎ**

Улады баснійскіх сербаў на працягу дня 28 студзеня вызвалілі ўсіх ваеннапалонных мусульман і харватаў — усяго 76 чалавек. Старшыня дзяржаўнай камісіі Сербскай Рэспублікі па абмену ваеннапалоннымі заявіў, што такім чынам баснійскія сербы выканалі ўсе адпаведныя палажэнні мірнага дагавора па Босніі і Герцагавіне.

**• ПРЫНЦЫП АДЗІН: УСІХ НА ЎСІХ**

Новасібірскія міліцыянеры, якіх узялі ў заложнікі дудаеўцы ў Першамайскім, могуць быць абмяняны на захопленых у Дагестане людзей з групы Радуева па прынцыпу ўсіх на ўсіх. Такой з'яўляецца нязменная пазіцыя чачэнскага боку на перамовах па гэтаму пытанню з прадстаўнікамі Дагестана.

**• АТАМ ПАШКОДЗІЎ АДНОСІНАМ МІЖ КРАІНАМІ**

Міністр замежных спраў Новай Зеландыі заявіў, што Францыі спатрэбяцца гады, каб кампенсаваць урон, які Парыж нанёс адносінам з краінамі паўднёвай часткі Ціхага акіяна сваімі ядзернымі выпрабаваннямі. Між тым пратэсты супраць французскага ядзернага выбуху працягваюцца ў Японіі. Мэр Хірасімы Хераока звярнуў увагу на тое, што французскія выбухі суправаджаюцца ўцечкамі радыяцыі.

**• АЛІМПІЯДА- 2006, МАГЧЫМА, ПРОЙДЗЕ Ў ПОЛЬШЧЫ**

Прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі заявіў, што яго дзяржава прыкладзе ўсе намаганні для таго, каб дабіцца правядзення зімніх Алімпійскіх гульняў 2006 года ў вядомым горным курорце Закапане. Па словах кіраўніка ўрада, сёння можна не толькі марыць, але і верыць, што гэта мэта дасягальная.

**• БЫЛЫ КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў КАНДЫДАТА НА ТОЙ СВЕТ**

Былы кандыдат у прэзідэнты Ірана Фарсі прыгавораны да смяротнага пакарання за наўмыснае забойства. Палітык з няўдалай кар'ерай абвінавачваўся ў праліцці нявіннай крыві свайго суседа па вёсцы восенню 1992 года. Фарсі, аднак, не прызнае сябе вінаватым у наўмысным забойстве і абвінавачвае сям'ю нябожчыка ў ілжэсведчанні, а таксама збіраецца выкарыстаць сваё права падаць на апеляцыю ў вышэйстаячыя судовыя інстанцыі.

**• МАРАДОНА БУДЗЕ ТАНЦАВАЦЬ**

Вядомы аргенцінскі футбаліст Дыега Марадона звярнуўся да арганізатараў маючага адбыцца ў лютым карнавалу ў Рыо-дэ-Жанейра з просьбай даць яму магчымасць паўдзельнічаць у гэтым святе ў якасці артыста. Дыега збіраецца выступіць у саставе школы танца самбы. Бразільцы гэту просьбу задаволілі, хоць, як высветлілася, артыстычнымі здольнасцямі такога жанру Марадона не валодае.

**• РУСКІ «СПРУТ» У ЗША**

ФБР не выключае, што праз некалькі гадоў руская мафія ў ЗША можа саставіць сур'ёзную канкурэнцыю італьянскай Коза-ностры. Адзін з былых кіраўнікоў гэтай арганізацыі заявіў, што расійскія транснацыянальныя злачынныя сіндыкаты ўстанавілі адносіны з 29 краінамі. Паліцыя лічыць, што з'яўленне ў ЗША гэтых вельмі небяспечных і добра арганізаваных груповак выклікала значнае абвастрэнне праблем амерыканскай злачыннасці.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Французскія падводныя археолагі знайшлі ля ўзбярэжжа Егіпта рэшткі аднаго з «сямі цудаў» свету. Вадалазы знайшлі на дне мора абчасаныя каменныя блокі з надпісамі. Некаторыя з іх важаць да 75 тон.

Па меркаванню даследчыкаў, гэтыя блокі — часткі сусветна вядомага Александрыйскага маяка, які на працягу 1000 гадоў стаяў перад паўвостравам Фарос, — ён быў бачны на адлегласці каля 40 міль ад узбярэжжа.

Александрыйскі маяк вышынёй 135 метраў быў пабудаваны ў час праўлення Пталемея І (323—285 гг. да н. э.), гэта значыць прыкладна за 300 гадоў да нараджэння Хрыстова. У 700 годзе новай эры абліцаваная белым мармурам вежа развалілася, а моцныя падземныя штуршкі завяршылі разбурэнне гіганцкага збудавання.

Каманда вадалазаў занята цяпер пошукам кавалкаў белага мармуру, а таксама гіганцкай статуі, якая вянчала вежу маяка.

**«Не можа быць»**

*Тройчы за адну ноч звярталася да траўматолага жыхарка Чэбарнаульскага раёна Чэлябінскай вобласці. Глыбокай ноччу ў прыёмны пакой прыйшла падпіўшая маладая жанчына з вывіхам сківіцы. Адсутнасць сінякоў і тлумачэнні пацярпеўшай упэўнілі ўрачоў, што вывіх адбыўся на вечарынцы ад залівістага смеху. З пастаўленай на месца сківіцай пацыентка зноў адправілася на вечарынку. Не прайшло і гадзіны, як яна зноў вярнулася ў бальніцу з ранейшымі сімптомамі. Але і тут запас весялосці ў жанчыны не знік. Так што пад раніцу ёй зноў прыйшлося звярнуцца да траўматолага.*

**ЕАН**

# Жонка павінна не «пiлiць», а натхняць: «Мiлы, ты можаш!»

## З доктарам псіхалагічных навук, намеснікам дырэктара Інстытута псіхалогіі РАН Уладзімірам ДРУЖЫНІНЫМ гутарыць аглядальнік ЛІНА ТАРХОВА

**Я**К НА НАШЧАДКАЎ нашых багатых людзей уплывае іх багацце?

— Багацце — справа ў дадзеным выпадку дваццатая, хоць першая асацыяцыя большасці пры словах «новыя рускія» — гэта менавіта грошы, капітал. Але дзіця да пары да часу нічога гэтага не ўсведамляе.

**— Не ўсведамляе, але адчувае, верагодна?**

— У раннім дзяцінстве яно адчувае не тое, наколькі багатая сям'я, а якая ў ёй сістэма адносінаў. Яна і толькі яна вызначае спачатку душэўны стан дзіцяці, яго настрой, яго будучыню. Дзіця ж мае зносіны не з матэрыяльнымі каштоўнасцямі, а з людзьмі, з тымі канфліктамі, якія яны нясуць у сям'ю.

Параўнанні ўзроўню дастатку пачынаюцца пазней, калі дзеці трапляюць у іншае сацыяльнае асяроддзе. Да іх пачынаюць ставіцца паасабліваму ў дзіцячым садзе, у школе, калі гэта звычайная наша школа. Вакол такога дзіцяці амаль заўсёды ўзнікае нейкае напружанне. Дзеці бяднейшыя яго або тэрарызуюць, або падлізваюцца да яго. Каб засцерагчы дзяцей ад падобных сітуацый, «новыя рускія» ствараюць для сваіх нашчадкаў асобныя ўмовы — за велізарныя грошы ўладкоўваюць у закрытыя дзіцячыя садкі, элітныя каледжы, пасылаюць на вучобу за мяжу. Калі раней дзеці эліты вучыліся за мяжой пераважна ў вышэйшых навучальных установах, то цяпер яны далучаюцца да еўрапейскай культуры значна раней — іншы раз з пачатковай школы.

Новыя багатыя паступаюць па прынцыпу нашай наменклатуры — замест таго каб рыхтаваць іх да рэальнага жыцця, як гэта робяць нармальныя прадпрымальнікі на Захадзе, ствараюць асобныя ўмовы. За мяжой у 16—18 гадоў сын або дачка пачынаюць працаваць або паступаюць у вышэйшую навучальную ўстанову — і ён (яна) ужо адрэзаны кавалак для сям'і. Яму падкінуць грошай на ўласны рахунак у банку, дапамогуць наняць жыллё — і ўсё, жыві самастойна, галубок!

**— Так, у нас бацькі «цягнуць» дзяцей да сівых валасоў, ды і ўнукаў таксама. Але можна было меркаваць, што прадпрымальнікі як людзі прагматычныя, якія стаяць на рэальнай глебе, зломяць гэту «сацыялістычную» традыцыю.**

— Пакуль гэтага не назіраецца. Наадварот, дамінуе гіперапека. І ўявіце, якая трагедыя чакае дзіця, выгадаванае ў штучных умовах, калі з татам-здабытчыкам і карміцелем раптам штосьці здараецца. Рушыцца ўсё жыццё, малады чалавек не падрыхтаваны да самастойнага існавання. Так добрыя намеры бацькоў прыводзяць яго прама ў пекла.

А калі бацькі, дзякуй Богу, жывыя? Гэта таксама далёка не гарантуе дзіцяці «новага рускага» ўдалага, нармальнага развіцця і выхавання. Як паказваюць даследаванні, у сем'ях новых багацеяў узнікаюць спецыфічныя праблемы, не характэрныя для іншых слаёў. Тыповы варыянт: тата заняты бізнесам, рэальна дамінуе ў сям'і, прынамсі нясе за яе адказнасць. Мама часцей за ўсё выслабанена ад гэтага грузу, хоць і спрабуе часам змагацца за ўладу (перад яе вачамі прыклад маці, якая была часцей за ўсё галавой сям'і). Але гэта яўна не адпавядае рэальнаму становішчу спраў: мужчына забяспечвае сям'ю, заняты па горла на рабоце, і яму проста не да дыскусій на тэму, хто ў сям'і галоўны, тым больш што ўсё здаецца абсалютна ясным. Вось вам і канфліктная сітуацыя.

Другі варыянт, куды горш за першы: мама таксама мае свой бізнес. У гэтым разе дзіцем займацца няма каму, у лепшым выпадку яно на руках бабуль і дзядуль. І трэці варыянт: мама — хатняя гаспадыня, што, дарэчы, у багатых сем'ях з'яўляецца рэдкасцю, але і гэта не знімае праблем выхавання, асабліва калі раней сям'і жылося цяжка. Жанчына ў такім разе імкнецца нагнаць упушчанае, атрымаць ад жыцця ўсё, яна ходзіць на модныя курсы экстрасенсаў і астролагаў (гэта яшчэ інтэлектуальны варыянт), часцей жа гэта прэзентацыі, круізы, анучы і секс на баку. Карацей кажучы, інтарэсы абодвух бацькоў сканцэнтраваны па-за домам, а дзіця адчувае сябе ў ізаляцыі. Вось малюнкі дзяцей з такіх сем'яў, выкананыя па просьбе псіхолага. Два тэсты: просьба намаляваць проста сваю сям'ю і другі — сям'ю, калі вы ўсе разам штосьці робіце. Малюнак дзяўчынкі: мама сядзіць за камп'ютэрам, тата — з кніжкай, а сама яна дзесьці ў кутку забілася, нікому не патрэбная.

**— І ўсе тры персанажы размяшчаюцца спінай адзін да аднаго...**

**— Некаторыя псіхіятры лічаць, што «дзіцячая» і «юнацкая» шызафрэнія, якая стала цяпер вельмі распаўсюджанай — вынік «непрызнання» бацькамі значнасці дзяцей у жыцці сям'і. Бацька, маці, дзіця жывуць як бы разам, але дзіця ў агульнасямейнай прасторы займае, як на тым малюнку, месца ў далёкім кутку.**

— Ва ўсякім разе, шматлікія неўрозы, ад якіх пакутуюць сёння дзеці, — менавіта адсюль. І, адчуваючы сваю віну, бацькі спрабуюць «выправіцца», а для многіх гэта азначае — адкупіцца. Засыпаюць дзяцей падарункамі, даюць грошы. Гэта зусім не аднаўляе нармальных сувязей з бацькамі, але, што горш таго, прывучае дзіця да думкі, што грошы цалкам могуць замяніць добрыя, цёплыя адносіны паміж людзьмі. Рэальна не ўключаны ў жыццё, справы ні маці, ні бацькі, дзіця замыкаецца ў сабе, расце эгацэнтрыстам, ён цяжка наладжвае адносіны з людзьмі, значна горш, чым дзеці з бедных сем'яў.

Аднак усё гэта — зусім не вынік уплыву багацця, якое звалілася на «новых рускіх», а вынік пераходу нашай сям'і ў іншую рэальнасць, якую мы цяпер перажываем.

**— Перабудова сям'і? Што вы пад гэтым маеце на ўвазе?**

— Яшчэ нядаўна ў нашай тыповай сям'і дамінавала і несла адказнасць за яе маці, жонка — да гэтага нас прывучыла родная савецкая дзяржава, дзе роля бацькі, мужчыны была зведзена да мінімуму. Ролю бацькі брала на сябе дзяржава: яна і бацька, і бог, і воінскі начальнік. Мужчына не меў магчымасці накарміць сям'ю, гэта значыць зарабіць дастаткова сродкаў сваёй актыўнасцю. Не мог ён выканаць у сям'і сваёй адказнай місіі і таму, што не ў стане быў несці за сям'ю і юрыдычную адказнасць — усе законы былі на баку жанчыны, маці.

Гэта быў варыянт язычніцкай анамальнай сям'і, як я яе вызначаю. Анамальнай, паколькі галавой у ёй з'яўляецца не муж, а жонка, і язычніцкай, паколькі такое размеркаванне ролей супярэчыць нормам хрысціянскай культуры.

**— Наколькі я ведаю, вы толькі што закончылі кнігу «Псіхалагічныя тыпы сям'і ў еўрапейскай культуры», дзе прадметам аналізу, сярод іншых фактаў жыцця, быту, культуры, быў і «сямейны анекдот». Што гаворыць анекдот аб рускай (савецкай) сям'і?**

— Было цікава прааналізаваць з гэтага пункту гледжання «сямейныя» анекдоты, але яшчэ больш цікава параўнаць з аналагічнымі амерыканскімі. Гэту работу правёў мой аспірант Ігар Саўчанка. Вось што ў выніку атрымалася.

Адносіны ў рускай сям'і кардынальна адрозніваюцца ад адносінаў у амерыканскай, і перш за ўсё кідаецца ў вочы адсутнасць у нашых сямейных анекдотах сексуальна-эратычных матываў. У рускіх анекдотах, нават самых непрыстойных, яны амаль не сустракаюцца. Слова «любоў» у прааналізаваных намі анекдотах не трапілася ні разу! Наогул, у рускіх анекдотах муж і жонка або не любяць адзін аднаго, або аб гэтым боку адносінаў наогул нічога не гаворыцца. Муж і жонка могуць адзін аднаго цярпець, шкадаваць аб тым, што ўступілі ў шлюб, але амаль ніколі не збіраюцца разводзіцца. Здрада аднаго з іх — не прычына для разводу, а прычына для скандалу. Муж, як правіла, цярплівы, раўнадушны, нават да здрады, а калі праяўляе нейкія эмоцыі, нават агрэсію, то накіроўвае яе на сапернікаў, але не на жонку. Аднак калі здраджвае муж, то жонка папракае, а часта б'е менавіта яго, а не «разлучніцу». Такім чынам, нават анекдоты пацвярджаюць, што ў рускай сям'і дамінуе жонка, а муж займае падначаленую пазіцыю. Чым моцна адрозніваецца ад амерыканскага мужчыны, які заўсёды дамінантны. Калі даведаецца, што жонка яму няверная, вельмі злуецца і спаганяе сваю злосць не на саперніку, а на жонцы. Амерыканскі мужык не п'янствуе, не аддаецца хобі, а заняты работай, бізнесам, грашамі, здабывае сям'і пражытак і нясе за яе адказнасць.

Рускі муж неразумны, просты («прасцей за праўду»), грубы, баязлівы, з'яўляецца нахлебнікам, галоўнае, каб яго своечасова пакармілі. Як бацька, ён чэрствы і абыякавы да дзяцей, лянівы, эгаістычны, меркантыльны. У адрозненне, зноў-такі, ад амерыканскага мужыка — заўсёды самастойнага, актыўнага, з дзелавой хваткай, які пры ўсёй сваёй занятасці спрабуе ўдзельнічаць у выхаванні дзяцей.

**— Суровы прыгавор выносіць народная творчасць рускаму мужчыну! Але сёння ў яго, нарэшце, ёсць магчымасць праявіць свае «фірменныя» якасці — незалежнасць, ініцыятыву. Наколькі прыметныя гэтыя змены даследчыкам?**

— Сітуацыя змянілася, і вельмі рэзка. Ствараемая цяпер руская сям'я становіцца блізкай да традыцый нават не хрысціянскай, а пратэстанцкай культуры, дзе роля бацькі, мужа настолькі вялікая, што ўзнікае глеба для барацьбы жанчын за раўнапраўе, фемінізм расце на глебе пратэстантызму. Але, як бы там ні было, мужчына цяпер вяртаецца да сваёй нармальнай, натуральнай ролі. Штуршком стала рэальная магчымасць аўтаномнай эканамічнай дзейнасці, а таксама магчымасць несці адказнасць за свае ўчынкі. Як толькі яна паявілася, мужчына яе выкарыстаў — і стаў мужчынам. Найбольш прыкметна гэта праяўляецца, натуральна, у сем'ях «новых рускіх». Цяпер трэба самому адказваць за лёс дзяцей, не перадаваючы гэта акцябрацкай зорачцы, піянерлагеру, камсамолу або партыі.

У многіх гэта атрымліваецца, што і зразумела: мужчыны, якія дабіваюцца поспеху ў бізнесе, — актыўныя, самастойныя, роля бацькі скроена прама для іх. Зразумела, гэта можна сказаць далёка не аб усіх — малюнкі дзяцей, аб якіх мы гаварылі, аб тым сведчаць. Яшчэ раз паўтару: разрыў сувязей з бацькам і нават проста недастатковасць такіх сувязей фатальныя. Толькі бацька здольны сфарміраваць у дзіцяці здольнасць праявіць ініцыятыву, процістаяць групавому націску. Чым больш ён прывязаны да маці (у параўнанні з бацькам), тым менш актыўна можа процістаяць агрэсіі акружаючых. Чым менш сын або дачка прывязаны да бацькі, тым ніжэй іх самаацэнка, тым менш яны надаюць значэння духоўным і сацыяльным каштоўнасцям у параўнанні з матэрыяльнымі і індывідуалістычнымі.

Што датычыць маці, жонкі, то тут цяпер узнікае новая праблема. Ёй непрывычна падпарадкаванае становішча (выхавана ў савецкіх традыцыях), і, зняўшы з сябе адказнасць, жанчына, аказваецца выбітай з каляіны, часта адмаўляецца ад адказнасці і за дзіця. Такі вынік крушэння ранейшай структуры сям'і. Жанчына разгублена — і ад гэтага кідаецца ў забавы, балазе, узровень забяспечанасці гэта дазваляе.

**— Па маіх назіраннях, у астатніх сем'ях, дзе мужчыны не здольныя або не схільныя да бізнесу, не могуць, як і раней, накарміць сям'ю і, такім чынам, узяць на сябе эканамічную адказнасць за яе, змен наогул не відаць. Хіба што раней жонка разумела, што, колькі ні бíся, усё роўна нічога не выйдзе, а цяпер перад вачамі новыя багатыя. Гэта вельмі моцны раздражняльнік для жонкі такога чалавека: вось яна, магчымасць зарабіць, а яе родны муж не хоча яе выкарыстаць. Або не можа, што, зрэшты, жонку не суцяшае.**

— А жонка павінна не «пiлiць», а натхняць: «Мiлы, ты можаш!» Памятаеце, як Сяргей Даўлатаў апісвае пераезд яго сям'і ў Штаты? Ён ляжаў у позе Васісуалія Лаханкіна, а жонка рабіла ўсё, неабходнае для ад'езду: клапацілася аб дазволе, бегала па дакументы, пакавала чамаданы. Але за акіянам ён схамянуўся, стварыў газету, пачаў зарабляць... Мужчыну прыстасаванне заўсёды даецца цяжэй, ён менш адаптыўны. Таму з ім трэба толькі так: «Мiлы, ты можаш!»

**— А хто натхніць жанчыну?**

— Дзеці. Ёсць рэчы, якія можа зрабіць у сям'і толькі яна. Псіхалагічны клімат у сям'і, упэўненасць дзіцяці ў сабе, яго ўключанасць у агульную «прастору», пачуццё абароненасці — за гэта адказвае маці. Цяпер такі час, калі вельмі, вельмі многае ў сям'і залежыць ад яе, ад яе ўзроўню культуры, ад таго, як хутка здолее яна сябе знайсці ў змененым свеце.

**«Деловой мир»**

**Мы перадрукоўваем гэтае інтэрв'ю, бо праблемы сям'і ў Расіі і Беларусі ў многім сёння падобныя.**

## Тэлебачанне 30 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. 9-ы клас. Грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі ў 40-х — 50-х гадах XX стагоддзя. **9.30** «Вестгейт». 16-я серыя. **10.25** «Алі-Баба і сорак разбойнікаў». Мультфільм. **10.55** «Етвызь-95». Фестываль заходнепалескай эстраднай песні. Гала-канцэрт і ўзнагарода пераможцаў. **12.15** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». Мастацкі фільм. 2-я серыя. «Спякота». **15.00** Навіны. **15.15** Гандлёвы дом. **15.30** «Домік для ўсіх». Мультфільм. **15.45** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. «Беларускай песні ўладар». Янка Купала і яго настаўнікі. **16.10** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.30** «Развітальнае». Дак.фільм. Памяці Алеся Адамовіча. **17.05** «Твар у твар». Перадача 2-я. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Чым багаты...» Брэсцкі завод «Газапарат». **18.15** «Ой, лятала шэра перапёлка». Дак.фільм. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** Вертыкаль. Пошта Прэзідэнта. **19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША). 17-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Катрын Дэнеў ў фільме «Індакітай» (Францыя). 1-я частка. **23.40** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў. **0.10** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». Серыял. **9.55** Смехапанарама. Вядучы Я.Петрасян. **10.20** «Трам! Добры дзень». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня. **11.00** Навіны. **11.10** У эфіры Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** «Уваход у лабірынт». 5-я серыя. **13.00** «Наўмысна». Мультфільм **13.10** «30 выпадкаў маёра Земана». Серыял. **14.00** Навіны. **14.20** «Страшэнная сіла». Мультсерыял. **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». Маладзёжны серыял. **16.00** ... Да шаснаццаці і старэйшым. **16.30** Сем дзён спорту. **17.00** Навіны. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». Серыял. **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня. **19.00** Тэма. **19.43** Рэклама. **19.45** «Добрай ночы, малышы!». **19.55** Рэклама. **20.00** Час. **20.30** «Аперацыя». **20.45** Павел Кадачнікаў у фільме «Подзвіг разведчыка». **22.20** Палітычны эксклюзіў. **22.30** Навіны. **22.40** Хакей. Чэмпіянат МХЛ. «Спартак» (Масква) — «Тарпеда» (Яраслаўль). 3-і перыяд. **23.20** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял. **00.15** Сем дзён спорту.

### «Канал «Расія»

**6.30** Час дзелавых людзей. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **7.25** Патрабуюцца... **7.30** «Што дзень наступны...» **7.35** Рытміка. **7.50** Усяго патроху. **8.40** Момант ісціны. **9.30** Тэлегазета. **9.35** Музычны экспромт. **9.50** Ключавы момант. **10.20** «Міліцэйская хроніка. **10.30** «Жывапіс Мікалая Шурыгіна». Дак.фільм. **10.50** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.15—11.30** Новая лінія. **15.05** Там-там навіны. **15.15** Свята кожны дзень. **15.25** «Адысея». Мастацкі фільм. **15.50** Каляндар. **16.20** Новая лінія. «Авось...» **16.55** Кінаафіша. **17.10** Непапулярная тэма. **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Пра надзвычайнае каханне, снайпера і касма-наўта». Мастацкі фільм. **21.05** Г.Сатараў і Р.Ібрагімбекаў у праграме «Мая Расія». **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Рэк-тайм. **22.55** «Спрут-5». 6-я серыя. **24.00** Вінілавыя джунглі.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 67-я серыя (ЗША). **17.30** Вялікі рынг. **18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Ален Дэлон і Вірна Лізі ў фільме «Чорны цюльпан» (Францыя). **21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **21.35** Гадзіна серыяла. «Доктар Куін. Жанчына-ўрач». 19-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск. **23.20** Меламанія: «Джэймс Ласт».



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 462.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12